*Ідзе падпіска на «Народную Волю» на снежань і першую палову 2020 года. Не спазніцеся!*

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***


**№ 87 (4442)**

5 лістапада 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.


# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

**БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ**



Аляксандр КЛАСКОЎСКІ,
спецыяльна для «Народнай Волі»

## Ідуць у парламент, каб займацца сабачымі пляцоўкамі?

Цяперашняя выбарчая кампанія выглядае надзвычай сумнай. Вертыкаль відавочна перастрахоўваецца. Апазіцыю амаль што цалкам пракінулі на этапе фарміравання выбаркамаў, яркія фігуры адсеяны пры рэгістрацыі, на этапе агітацыі пазбаўляюць кандыдацкага статусу найболей вострых крытыкаў цяперашняга палітычнага курсу, некаторыя выступленні цэнзуруюць і не пускаюць у эфір.

Выступленні ж многіх праўладных кандыдатаў па тэлебачанні, іх надрукаваныя ў прэсе праграмы выглядаюць цалкам бездапаможнымі. Вось мне трапіліся на вочы праграмы двух кандыдатаў, што балатуюцца па Жодзінскай выбарчай акрузе №64, – **Валерыя Стральчонка** і **Максіма Курыловіча**. Абедзве шчодра нашпігаваны штампамі ў духу «за ўсё добрае супраць усяго дрэннага».

Сябар Камуністычнай партыі Беларусі, намеснік дырэктара політэхнічнага каледжа Стральчонак, напрыклад, дэкларуе: «Мэта маёй працы ў выпадку абрання дэпутатам – устойлівае і дынамічнае сацыяльна-эканамічнае развіццё горада Жодзіна і Смалявіцкага раёна». Выдатна, але за кошт чаго ён збіраецца гэтага дамагацца?

У праграме маецца, праўда, пункт «Прыцягненне інвестыцый у акругу для развіцця прамысловасці і сельскай гаспадаркі». Але якім чынам? Што, ён скажа: гэй, інвестары, усе сюды! – і яны пабягуць спатыкаючыся? Ці мо запэўніць: зуб даю, што менавіта тут вашы грошыкі прынясуць шалёныя дывідэнды? Смех дый годзе.

Справа парламентарыя – каваць законы, якія павінны прыносіць карысць не толькі Жодзіну і Смалявіцкаму раёну, а ўсёй краіне. Але пра заканадаўчую працу ў праграме практычна нічога няма, калі не лічыць туманнай фразы пра «ўключэнне ў страхавы стаж перыядаў службы ў арміі і дэкрэтнага адпачынку». Аднак жа яшчэ ў мінулым месяцы Міністэрства абароны паведаміла, што прапанову пра ўключэнне перыяду тэрміновай вайсковай службы ў страхавы працоўны стаж прэзідэнт ужо ўхваліў і даручыў распрацаваць адпаведны прававы акт да 1 снежня. Дык нашто ламацца ў адчыненыя дзверы?

Акрамя таго, праграма Стральчонка насычана абстрактнымі, размытымі абяцаннямі якаснага медыцынскага абслугоўвання, забеспячэння сучасным медыцынскім абсталяваннем, стварэння спрыяльных умоў для пражывання, новых высокатэхналагічных працоўных месцаў, удасканалення работы сферы адукацыі і г.д.

Асабліва ж уражвае размах намераў усяго ў акрузе набудаваць. Кандыдат маецца садзейнічаць фінансаванню і пабудове сучаснай аўтастанцыі, дзіцячай паліклінікі, жылых дамоў у мікрараёне №9, а таксама ў сельскай мясцовасці для тых, хто мае патрэбу, сярэдняй школы ў 8-м мікрараёне (дарэчы, такое ж абяцанне наконт школы ды паліклінікі дае і начальнік змены тэрмагальванічнага цэха БелАЗа, прафсаюзны актывіст Курыловіч).

Мо гэтыя кандыдаты – Дзяды Марозы, чараўнікі Ізумруднага горада? Бо калі не, то зноў жа паўстае рубам банальнае пытанне: дзе набрацца на ўсе гэтыя цуды грошай? Дзяржаўны бюджэт – не бяздонная бочка. Трэба быць ну вельмі наіўным выбаршчыкам, каб паверыць, што менавіта жодзінскім дэпутатам пашэнціць скіраваць грашовыя плыні на дэклараваныя мэты. Ім што, за прыгожыя вочкі мільёны адваляць? А чым горшыя астатнія сто з гакам дэпутатаў?

Увогуле ж зусім не ў тым іх задача, каб цягнуць фінансавую коўдру на сябе. Бо пры такім падыходзе атрымліваецца Трышкаў каптан: калі для аднаго рэгіёна ўварваць болей, то ў іншым месцы чагосьці недаатрымаюць. Місія дэпутатаў нацыянальнага ўзроўню – ствараць прагрэсіўныя законы, каб дзяржава багацела, тады і ў кожнай акрузе жыццё стане больш заможнае, шпарчэй пойдуць розныя будоўлі.

Згаданыя ж праграмы – пракіслы вінегрэт з агульных фраз і драбнатэм'я. Курыловіч, у прыватнасці, абавязуецца садзейнічаць «стварэнню спрыяльных умоў для развіцця малога і сярэдняга бізнесу ў сельскай мясцовасці». Якім чынам – гадайце самі. Ён жа абяцае спрыяць «добраўпарадкаванню дваровых тэрыторый, будаўніцтву дзіцячых пляцовак, абсталяванню веладарожак і тэрыторый для выгулу жывёл». Натуральна, сабачыя пляцоўкі таксама патрэбны, але ж ці гэта стратэгічная задача парламентарыя?

Курыловіч зазначае ў праграме: «Лічу, што дэпутат – гэта сувязное звяно паміж грамадзянамі і органамі ўлады». Але ж насамрэч Нацыянальны сход – гэта і ёсць орган, галіна ўлады. А тут – уяўленне пра дэпутата як пра нейкага выбівалу ці кур'ера з чалабітнымі.

Складваецца ўражанне, што людзі не разумеюць, куды ідуць і чым павінен займацца парламент. Зрэшты, не сакрэт, што большасць кандыдатаў-лаялістаў балатуюцца толькі таму, што ім гэта параілі ў пэўных кабінетах. Камусьці сапраўды свеціць мандат, а камусьці адвялі ролю статыста, каб стварыць ілюзію канкурэнтнасці. Бо падобна на тое, што наверсе вырашылі цалкам выціснуць рэшткі апазіцыі з выбарчага працэсу і разыгрываць электаральныя спектаклі з удзелам толькі лаяльных акцёраў.

Перастрахоўку можна зразумець: «беларуская мадэль» вычарпала свой рэсурс, адчувальна ўзняць дабрабыт цяперашняя ўлада не можа, яе папулярнасць, мяркуючы па ўсім, упала ніжэй за плінтус. Таму на выбары стараюцца дапускаць збольшага тых, хто не стане варушыць электарат радыкальнымі прапановамі змены кіроўнай палітыкі. Таму і бачым мы на экранах, за рэдкім выключэннем, бляклых персанажаў з маннай кашай у роце.

Толькі вось баюся, што ў выніку Палата прадстаўнікоў будзе ўяўляць сабой, калі перафразаваць назву вядомага твора, 110 адценняў шэрага.

**АНОНС**

*Народная артыстка Беларусі, легендарны дыктар Беларускага тэлебачання* ***Зінаіда Бандарэнка*** *сёлета адзначыла прыгожы юбілей – 80-годдзе.*

*Адным з лепшых падарункаў Зінаідзе Аляксандраўне, а таксама тысячам беларусаў стала кніга яе ўспамінаў –* ***«Мой шлях да Беларусі»****, якая ў бліжэйшы час убачыць свет. У снежні адбудзецца прэзентацыя выдання.*

*Сёння «Народная Воля» пачынае друкаваць фрагменты кнігі (стар. 6).*



**ЦЫТАТА**

## Павел ЮХНЕВІЧ,

актывіст «Еўрапейскай Беларусі»:



***– Любое дзеянне ў беларускім апазіцыйным асяродку выклікае незразумелую крытыку. Дык зрабіце вы хоць што-небудзь, і тады будзеце мець маральнае права асуджаць іншых за іх дзеянні і ўчынкі.***

**З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ**

## «Народ ужо не верыць балбатунам...»

*Вольга Кавалькова, якая вылучылася на выбары ў дэпутаты Палаты прадстаўнікоў ад Аб'яднанай грамадзянскай партыі і балатуецца ў Мінску па Партызанскай акрузе №103, распавяла «Народнай Волі» пра сваю агітацыйную кампанію.*

– Зараз запісалі дэбаты, у якіх акрамя мяне бралі ўдзел і іншыя кандыдаты – Генадзь Давыдзька, Алег Гайдукевіч і Вольга Дамаскіна, хаця нават не ведаю, калі перадача выйдзе ў эфір, – кажа Вольга. – Тэма дэбатаў – «Палітычная сістэма ў Беларусі». Былі розныя меркаванні падчас дыскусіі, усё прайшло досыць цікава.

**– З якімі пытаннямі звярталіся да сваіх апанентаў?**

– Мяне цікавіла, напрыклад, як яны ставяцца да абмежавання тэрмінаў прэзідэнцкіх паўнамоцтваў. Казала і пра тое, что немагчыма заяўляць, што ў краіне развіваецца палітычная сістэма, калі апазіцыйным партыям і грамадскім арганізацыям зарэгістравацца практычна немагчыма. Колькі ўжо прыхільнікі БХД не могуць зарэгістраваць сваю партыю? У Кнігу рэкордаў Гінеса можна заносіць!

Я ўпэўнена, што вырашэнне гэтай праблемы ляжыць менавіта ў палітычнай плоскасці. Не будзе развіцця альтэрнатыўных партый – не будзе развіцця палітычнай сістэмы.

**– Ці задаволены вы, як праходзіць перыяд агітацыйнай кампаніі?**

– Немагчыма быць цалкам задаволеным той выбарчай сістэмай, якая пабудавана ў Беларусі. На мой погляд, няма роўнасці ўмоў для праўладных кандыдатаў і незалежных. Першыя карыстаюцца ў першую чаргу адміністрацыйным рэсурсам, маюць большы доступ да дзяржаўных СМІ.

Тое самае і з рэгістрацыяй кандыдатаў. Праўладных кандыдатаў, якія вылучаліся шляхам збору подпісаў, практычна ўсіх зарэгістравалі ў адрозненне ад іх дэмакратычных апанентаў.

**– Многія незалежныя кандыдаты скардзяцца на адсутнасць грошай на правядзенне добрай агітацыйнай кампаніі...**

– Тая ж самая праблема і ў мяне, бо свой



бюджэтны фонд трэба фарміраваць толькі за кошт уласных сродкаў. Хаця дзяржава таксама магла б вызначыць нейкую суму для кандыдатаў.

І не варта ў гэтай сітуацыі чакаць дапамогі ад іншых людзей, бо многія баяцца лішні раз «свяціцца». Падтрымаеш дэмакратычнага кандыдата – заўтра да цябе могуць прыйсці з праверкамі. Таму многія, можа быць, у душы цябе і падтрымліваюць, але ваш рахунак ад гэтага не папоўніцца.

Акрамя таго, варта адзначыць, што ўлады робяць усё магчымае, каб у людзей знікла цікавасць да выбараў. Многія кажуць так: «Ад мяне тут нічога не залежыць, усё роўна прызначаць таго, каго неабходна».

**– А апазіцыю насельніцтва падтрымлівае?**

– Людзі стаміліся ад шматлікіх абяцанняў, таму асабіста я нават не абяцаю таго, што не змагу ажыццявіць. Народ ужо не верыць балбатунам, якія актывізуюцца падчас выбараў.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

**ДАБРАЧЫННАЯ АКЦЫЯ**

## Каб у 600 бібліятэках была «Народная Воля»!

Не сакрэт: з-за мізэрных пенсій, невысокіх заробкаў многія людзі не маюць магчымасці падпісвацца на перыядычныя выданні. Ужо працяглы час назіраецца такая тэндэнцыя – расце колькасць грамадзян, якія, каб пачытаць газеты, ідуць у публічныя бібліятэкі. Зыходзячы з гэтага, рэдакцыя «Народнай Волі» ў канцы мінулага года разгарнула кампанію па зборы сродкаў для таго, каб **600** бібліятэк нашай краіны змаглі рэгулярна атрымліваць «Народную Волю». Водгукі, якія да нас даходзяць, самыя станоўчыя. Людзі з невысокім дастаткам удзячны нам і ўсім ахвярадаўцам за такі дабрачынны крок, кожны нумар газеты чакаюць з вялікім нецярпеннем.



І вось ужо поўным ходам ідзе падпіска **на першую палову 2020 года,** і нам нельга пакінуць бібліятэкі без «Народнай Волі» **у студзені–чэрвені.** На жаль, з уласнымі фінансамі ў рэдакцыі вялікі дэфіцыт (ад дзяржавы не маем ніякіх прэферэнцый). Таму мы аб'яўляем чарговую дабрачынную акцыю па зборы фінансавых сродкаў, з тым каб і ў наступным годзе **600** публічных бібліятэк атрымлівалі «Народную Волю». Але на гэты раз ахвяраванні вырашылі збіраць не праз краўдфандынг, а непасрэдна праз разліковы рахунак рэдакцыі.

Дапамажыце, калі ласка, – з такой мальбой звяртаемся да ўсіх, хто мае магчымасць працягнуць руку дзеля гэтай высакароднай справы. Вядома ж, перш-наперш наш зварот да кіраўнікоў бізнес-кампаній, фірм, прадпрымальніцкіх структур. У вырашэнні надзвычай важнай «бібліятэчнай праблемы» можаце ўзяць удзел не толькі вы самі, але і вашы супрацоўнікі. Заўважым: каб аформіць падпіску на «Народную Волю» на першую палову 2020 года для **600** публічных бібліятэк, неабходна сабраць каля **36.000** рублёў. Рады будзем ахвяраванням у любым памеры. Рэквізіты для пералічэння грошай (*з адзнакай «Падпіска для бібліятэк»*):

**Выдавецкае прыватнае ўнітарнае прадпрыемства «Народная Воля»**

**220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а**
**УНП 100961759**
**банкаўскія рэквізіты:**
**р/р BY08 PJCB 3012 0065 3510 0000 0933**
**у «Прыёрбанк» ААТ, ЦБУ 113**
**BIC: PJCBBY2X**

Адначасова хочам адзначыць: выказваючы шчырую ўдзячнасць усім патэнцыйным ахвярадаўцам, рэдакцыя газеты «Народная Воля» заўжды гатова наладзіць з вамі самыя цесныя стасункі. Рады будзем бачыць вас у нашым офісе па адрасе: Мінск, вул.Энгельса, 34а. Кантактны тэлефон – 8-017-328-68-71.

**Рэдакцыя газеты «Народная Воля».**

**SOS!**

## За восем гадоў з-за аўтааварый згубілі раённы цэнтр

Прэс-служба Міністэрства ўнутраных спраў учора распаўсюдзіла страшэнную статыстыку. Толькі за мінулую пятніцу і выхадныя дні на дарогах Беларусі загінулі дзесяць чалавек, з іх пяць пешаходаў.

Дзяржаўтаінспекцыя звярнулася да ўсіх удзельнікаў дарожнага руху з просьбай быць уважлівымі, а пешаходам, веласіпедыстам і возчыкам гужавых павозак зрабіць сябе прыкметней у цемры – пазначаць флікерамі (святлоадбіваючымі элементамі).

Трэба адзначыць, што за апошнія гады ў краіне амаль удвая зменшылася колькасць ДТЗ са смяротнымі вынікамі. Тым не менш з 2011-га па 2018 год у аварыях загінула 6 тысяч 280 беларусаў. Гэта амаль раённы цэнтр. Сёння, напрыклад, насельніцтва горада Зэльва Гродзенскай вобласці складае 6,6 тысячы чалавек.

**Колькасць людзей, якія загінулі ў выніку дарожна-транспартных здарэнняў (з 2011-га па 2018 гады)**

| 2011 | 2012 | 2013 | 2014 | 2015 | 2016 | 2017 | 2018 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1200 | 1039 | 894 | 757 | 664 | 588 | 589 | 549 |

*Паводле дадзеных Статыстычнага штогодніка, 2019 год.*

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

**НУ І НУ!**

## Збілі і аштрафавалі

*Учора суд Мінскага раёна аштрафаваў аднаго з абаронцаў Курапат* ***Дзяніса Урбановіча*** *на 65 базавых велічынь (1657,5 рубля).*

Яго прызналі вінаватым у дробным хуліганстве (25 базавых) і непадпарадкаванні законнаму патрабаванню службовай асобы (40 базавых).

У суд Урбановіча прывезлі з накладзенай на шыю шынай: пасля затрымання яго жорстка збілі міліцыянеры.

Вечарам 3 лістапада каля рэстарана "Поедем поедим" паміж актывістамі і аховай узнікла бойка, калі першыя спрабавалі патрапіць у рэстаран.

**Віктар ШПАК.**

**СТРАШНА!**

## С 2014 года в Донбассе убито более 3,3 тысячи мирных граждан

Число внутренних переселенцев достигло миллиона трехсот тысяч человек

Начиная с весны 2014 года в результате войны в Донбассе убито более 3 тысяч 330 мирных граждан, следует из обновленных данных Организации Объединенных Наций.

В ООН сообщили, что около 9 тысяч жителей были ранены, а 1 миллион 300 тысяч человек стали внутренними переселенцами.

В организации также отметили, что в результате конфликта появилась «линия соприкосновения» длиной 427 километров, из-за чего был перекрыт «доступ к основным услугам». По данным ООН, 3,5 миллиона человек нуждаются сейчас в помощи.

**УВАГА!**

***У сувязі з выхаднымі і пераносамі працоўных дзён 7 лістапада не будуць працаваць друкарня, пошта і экспедыцыя, таму наступны нумар «Народнай Волі» выйдзе 9 лістапада.***

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

# Всему своя цена

3 ноября довольно известный белорусский портал опубликовал занимательную информацию: «В одном из столичных супермаркетов продают охлажденные стейки тунца по 119,99 рубля за килограмм. На среднюю зарплату за сентябрь такой рыбы можно купить всего 9 с небольшим килограммов».

Пожалуй, я не стал бы заострять на этом внимание. По мировым ценам 53 доллара за килограмм тунца, скорее всего, и недорого будет. Тунец – рыба, пользующаяся бешеной популярностью в мире, и чем тунец тот больше в размерах – тем соответственно он и дороже.

Но все это богатство, явно рассчитанное не на наш карман, просто меркнет, когда знакомишься с другой информацией: с 1 ноября у нас подняли минимальные трудовые и социальные пенсии, пособия, а также выплаты некоторым отдельным категориям граждан. Приведем и эти сведения – благо они носят официальный характер, есть ссылки на Министерство труда и социальной защиты.

Итак, надбавка по возрасту и выслуге лет пенсионерам, достигшим 80-летнего возраста, а также другим одиноким пенсионерам, нуждающимся, по заключению МРЭК или ВКК, в постоянной посторонней помощи, с первого ноября составляет 28,98 рубля и повышена по сравнению с предыдущим периодом на … 11 копеек. Надбавка для инвалида первой группы (которую вообще-то еще нужно получить, то есть выходить по кабинетам) составляет 57,96 рубля, и стала она выше на… 23 копейки. Лицам, работавшим в период блокады города Ленинграда на предприятиях, в учреждениях и организациях города, и лицам, награжденным знаком «Жителю блокадного Ленинграда», у нас доплачивают также 57,96 рубля, повысив эту выплату с 1 ноября на те же 23 копейки.

Последняя цифра просто ввела меня в состояние шока. Я представил себе, как людям, знающим, что такое 125 граммов блокадного хлеба на день, наше социальное государство милостиво доплачивает за их страдания полкило тунца в месяц.

Облагодетельствовало наше государство и некоторые другие категории граждан. Скажем, родителям и женам военнослужащих, лиц начальствующего и рядового состава органов внутренних дел, органов и подразделений по чрезвычайным ситуациям, органов финансовых расследований, смерть которых связана с исполнением обязанностей военной службы, выплаты составляют 104,33 рубля в месяц, что по сравнению с предыдущим периодом выше ровно на 42 копейки. Пятьдесят долларов в месяц получается. Спасибо, наши воины точно знают, за что будут умирать. То есть, конечно, за родину тоже, но обычно в наше время в других странах офицер точно знает, что его семья будет обеспечена. И – не пятьюдесятью долларами.

Эта страшная, с моей точки зрения, диспропорция между ценой на океанскую рыбу и помощью, оказываемой родителям погибшего офицера, формально не заметна: и там, и там – пятьдесят долларов. Проблема в том, что это равенство свидетельствует о каком-то невероятном отрыве людей, покупающих тунца килограммами, от жизни тех, выплаты кому повышаются то на 11, то на 42 копейки и от кого государство ожидает благодарности за это. Как же, вот, смотрите, мы компенсируем вам рост цен! И если вы не хотите покупать пресловутого и уже, судя по всему, набившего читателю оскомину тунца, можете в том же супермаркете приобрести мраморную говядину по 159,99 рубля за кило, оленину по 64,99 и конину по 25,99 рубля.

На этом фоне становится понятно, почему, например, переизбирающаяся на следующий срок депутат Палаты представителей **Людмила Макарина-Кибак** считает необязательным публикацию сведений о доходах государственных служащих. То есть заполнение декларации – обязательно, а вот публикация – нет, не обязательна. Правда, кандидатов в депутаты сие не касается: сведения об их доходах публикуются на предвыборных официальных плакатах, подготовленных избирательными комиссиями. Так что, уважаемые читатели, разглядывая эти плакаты, обратите внимание: вдруг вы поймете, кто именно принимает у нас законы, улучшающие жизнь бывших тружеников блокадного Ленинграда на целых 23 копейки.

ПАМЯЦЬ

# Едзем да Алеся Адамовіча…

*9 лістапада а 14-й гадзіне ў пасёлку Глуша Бабруйскага раёна з удзелам шырокай грамадскасці адбудзецца адкрыццё бюста слыннага сына Беларусі.*



Алесь Адамовіч – «постаць еўрапейскага маштабу». Менавіта так выказаўся пра вядомага празаіка і крытыка, літаратуразнаўца і публіцыста, грамадскага дзеяча і навукоўца Васіль Быкаў.

Нарадзіўся Алесь (Аляксандр Міхайлавіч) Адамовіч у вёсцы Канюхі Капыльскага раёна Мінскай вобласці. Але неўзабаве яго бацькі былі накіраваны на пастаянную працу ў пасёлак Глуша Бабруйскага раёна Магілёўскай вобласці. Менавіта там будучы пісьменнік вучыўся з першага па сёмы клас. Адтуль была яго дарога ў вялікі свет.

Алесь Адамовіч стаў доктарам філалагічных навук, прафесарам. Быў членам Саюза пісьменнікаў СССР, Саюза кінематаграфістаў СССР, членам-карэспандэнтам Акадэміі навук Беларусі, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі БССР імя Якуба Коласа. Ён аўтар раманаў «Сыны ідуць у бой», «Вайна пад стрэхамі», «Карнікі», «Хатынская аповесць». Разам з Янкам Брылём і Уладзімірам Калеснікам занатаваў успаміны больш як трохсот сведак ваеннай трагедыі, якія ляглі ў аснову дакументальнай кнігі «Я з вогненнай вёскі». Напісаў сцэнарый, паводле якога кінарэжысёр Элем Клімаў зняў кінафільм «Ідзі і глядзі», які атрымаў вялікі рэзананс у многіх краінах. З-пад пяра Аляксандра Міхайлавіча выйшла шмат іншых творчых работ.

Калі выбухнуў рэактар на Чарнобыльскай АЭС, Алесь Адамовіч звярнуўся з лістом да тагачаснага генеральнага сакратара КПСС М.С.Гарбачова, у якім данёс да яго і сусветнай грамадскасці сапраўдныя маштабы трагедыі, акцэнтуючы ўвагу на лёсе Беларусі. У дні жнівеньскага путчу ў Маскве знаходзіўся ў шэрагах абаронцаў Белага дома. Удзельнічаў у працы Сойму Беларускага Народнага Фронту.

Памёр Алесь Адамовіч 26 студзеня 1994 года. Пахаваны на Радзіме – на могілках паблізу пасёлка Глуша Бабруйскага раёна.

9 лістапада а 14-й гадзіне з удзелам шырокай грамадскасці адбудзецца адкрыццё бюста слыннага сына Беларусі Алеся Адамовіча ў пасёлку Глуша. Па ўсіх арганізацыйных пытаннях можна звяртацца да Андрэя Архіпенкі (тэл. 8-029-123-88-73) і да Ванды Архіпенка (тэл. 8-044-532-64-82).

ЗНАКОМЬТЕСЬ!

# Новый гендиректор Большого театра Александр Петрович – оптимист без иллюзий

Сегодня министр культуры Ю.Бондарь должен представить нового генерального директора Большого театра – Александра Евгеньевича Петровича. В последние годы он возглавлял Белорусский государственный академический музыкальный театр. Конечно, этот коллектив не из передовых учреждений культуры в нашей столице. По разным причинам. Одна из которых – определяющая – у него совершенно нищий бюджет, так как «Музкомедия» принадлежит городу и финансирование из бюджета получает очень и очень скромное. Думаю, Минкультуры давно следовало бы его переподчинить.

Официальное представление нового руководителя планируется провести в Камерном зале Большого театра, куда приглашены солисты и руководители подразделений – всего около ста человек. По этому поводу Михаил Панджавидзе, главный режиссер театра, написал на своей странице в «Фэйсбуке» следующее: «По-видимому, Минкульт побоялся новой встречи с сотрудниками театра. Или опасается взрыва негодования со стороны коллектива. В любом случае это проявление величайшего неуважения к такому огромному коллективу. Что ж… остается следить за развитием событий. И готовить переезд в Москву».

Почему главный режиссер хочет уехать от нас в Москву, не совсем понятно, но сердцу не прикажешь. И при чем здесь неуважение к коллективу – чем плох в данном случае Камерный зал? Ну, это все уже только эмоции.

Как видим, Александр Петрович станет у руля огромного сложного коллектива, который еще не остыл от проводов предыдущего гендиректора. Но считать, что работа Большого театра после ухода В.П.Гридюшко остановится, разрушится, видимо, не стоит. Не на одном генеральном директоре (какая бы фамилия у него ни была) держится слава нашего Большого. Есть колоссальные творческие силы, которые и поднимают театр! Конечно, кто-то, может быть, сгоряча (или даже обдуманно) и поменяет место работы – но это процесс естественный. Люди искусства свободны в выборе места службы.

Александр Петрович всю свою профессиональную жизнь работал в сфере культуры: начинал в министерстве, был заместителем директора филармонии, начальником управления культуры в горисполкоме. Кстати, работал главным администратором Большого театра в самые сложные годы, во время его капитального ремонта. Так что он персона известная, человек, несомненно, опытный.

В одном из своих последних интервью Александр Евгеньевич говорил: «Пессимист – это человек, который не знает, что будет плохо. И, когда приходит «плохо», он опускает руки. А оптимист знает, что будет плохо, и готовится к этому. Именно с этой точки зрения я оптимист. Много лет работаю в культуре. Прошел разные этапы – подъемы, взлеты, падения. Не питаю иллюзий по поводу того, что завтра, как по мановению волшебной палочки, что-то изменится. Как для всего хорошего, так и для плохого есть причины и определенный срок».

Что ж, публика, как всегда, в ожидании, Александр Евгеньевич.

**Елена МОЛОЧКО.**



СУД ДЫ СПРАВА

# Блогера Андрэя Павука не спыніць!

У «Народнай Волі» 11 кастрычніка пад рубрыкай «Новае пакаленне» быў надрукаваны вялікі артыкул «Місія Павука». У ім распавядалася пра вядомага блогера і грамадскага актывіста Андрэя Павука з райцэнтра Акцябрскі, што на Гомельшчыне. Праз крэатыўныя акцыі і перформансы, выпускі відэанавін у сацыяльных сетках на пляцоўцы папулярнай суполкі «Рудабельская паказуха» Павук імкнецца ўзвысіць дух землякоў, змагаецца з хібамі мясцовага жыцця, крытыкуе чыноўнікаў. Тыя ў сваю чаргу імкнуцца па-свойму «аддзячыць» блогеру. У ход пайшлі запалохванні і правакацыі.

Нагадаем: мінулай вясной Андрэя Павука абвінавацілі ў адпраўцы паведамлення ў Гомельскае ўпраўленне МНС пра мініраванне Акцябрскага райвыканкама. Блогера затрымалі, правялі вобыск у кватэры, забралі на два месяцы на праверку камп'ютары, відэакамеру, мабільныя тэлефоны. І нават завялі крымінальную справу паводле часткі 1 артыкула 340 КК па факце паведамлення пра мініраванне райвыканкама.

Павук палічыў, што міліцыя сваімі дзеяннямі яго абразіла. Звярнуўся з іскам у суд, запатрабаваўшы спагнання з Акцябрскага РАУС 25 тысяч рублёў за нанясенне маральнай шкоды.

Пасля чатырох пасяджэнняў суддзя Уладзімір Васілеўскі, які разглядаў іск, вырашыў адхіліць прэтэнзіі блогера Павука да райаддзела міліцыі.

Такія іскі задавальняюцца найчасцей, калі ў крымінальна-працэсуальным парадку дзейнасць органаў міліцыі была прызнана незаконнай. У выпадку з блогерам такога не было.

*«Сапраўды, раённы суд не задаволіў мой іск. Але ніхто з апытаных у судзе супрацоўнікаў міліцыі не назваў мне тых «дастатковых падстаў», якія давалі ім права падазраваць мяне ў «мініраванні» будынка райвыканкама. І суд гэтага не высветліў. Лічыў і лічу, што мела месца палітычная замова на запалохванне мяне і маёй сям'і, каб выключыць мяне з блогерскай дзейнасці»*, – кажа Андрэй Павук.

На тле судовага разгляду іску блогера да міліцыі пачаліся новыя пагрозы і правакацыі. Акурат напярэдадні асноўнага пасяджэння суда аб спагнанні з міліцыі кампенсацыі маральнай шкоды Павук атрымаў на свой адрас у Viber ананімнае пасланне нібыта з філіпінскага нумара:

«Заўтра суд, і ты яго прайграеш. Тэма з вобыскам была створана для таго, каб ты задумаўся пра свае паводзіны, закрыў свой смярдзючы рот і ўладкаваўся на працу. Скажы дзякуй, што нічога не падкінулі. Калі будзеш займацца сабатажам і ачарненнем існуючай улады, будуць прымацца меры ў адносінах да цябе. Сядзеш, і твая (*ідзе непрыстойны выраз*) жонка будзе передачкі насіць».

Тэкст пагрозы напісаны на рускай мове з арфаграфічнымі і пунктуацыйнымі памылкамі, відавочна, каб выглядаў прастамоўным.

Увечары 4 кастрычніка на тэлефон Андрэя Павука пазваніў аператыўны дзяжурны Акцябрскага РАУС Алег Дземенкавец. Пытаўся, што здарылася. Паводле слоў дзяжурнага, у міліцыю паступіў званок з нумара самога Павука, які быццам паведаміў, што «забіў сваю жонку разам з яе любоўнікам». Аператыўнікі не прыязджалі на кватэру сям'і Павука, бо Вольга сама патэлефанавала ў «дзяжурку» і сказала, што гэта жудасная правакацыя.

5 кастрычніка Андрэй з жонкай хадзілі ў міліцыю. Вольга напісала заяву на імя начальніка РАУС, у якой патрабавала знайсці зламысніка, высветліць матывацыю яго тэлефанавання, а таксама ўстанавіць, якім чынам выкарыстоўваецца тэлефон мужа для супрацьпраўных гульняў і правакацый. Спадзяванняў на станоўчы вынік у Андрэя і Вольгі няшмат. У міліцыі ім адразу паведамілі, што, маўляў, тэхніка ў «дзяжурцы» не зафіксавала поўнага нумара, з якога паступіў тэлефонны званок.

У звязку з правакацыямі ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў», сябрам якой Павук з'яўляецца, звярнулася да міністра ўнутраных спраў Юрыя Караева з просьбай узяць пад асабісты кантроль правядзенне праверак па фактах супрацьпраўных дзеянняў у дачыненні да блогера. Паколькі сілавыя органы так і не знайшлі тых, хто паведамляў пра «мініраванне» райвыканкама ад імя А.Павука ды пагражаў яму асабіста.

22 кастрычніка ў ГА «БАЖ» паступіў ліст за подпісам першага намесніка начальніка УУС Гомельскага аблвыканкама Алега Шулякоўскага, у якім сказана, што супрацоўнікі органаў унутраных спраў *«прымаюць усе неабходныя меры для ўстанаўлення асобы, якая ўчыніла супрацьпраўныя дзеянні ў дачыненні да Андрэя Павука»*. Папярэдняе расследаванне крымінальных спраў вядзе рэгіянальнае ўпраўленне Следчага камітэта.

Сам Андрэй Павук атрымаў падобны ліст 24 кастрычніка за подпісам Анатоля Васільева, другога намесніка начальніка Гомельскага УУС. Ён піша, што *«па факце ілжывага паведамлення ў Акцябрскі РАУС 4 кастрычніка вядзецца праверка, накіраваны запыты арганізацыям, якія аказваюць паслугі сувязі, прызначана фонаскапічная экспертыза»*. Дзяжурнаму РАУС капітану міліцыі Алегу Дземенкаўцу строга ўказана на несвоечасовае інфармаванне сям'і Павука пра рашэнне не накіроўваць супрацоўніка для правядзення апытання ў звязку з вечаровым інцыдэнтам.

Так, нялёгка простаму чалавеку змагацца з сістэмай. Але блогер Андрэй Павук з Гомельшчыны не мае намеру спыняць змаганне з тымі, хто парушае закон і правы людзей.

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ.**
*г.п.Акцябрскі.*

ЗАКУЛІССЕ

## Андрэй АРАМНАЎ:

# «Мы з жонкай – у чаканні сына…»

*Алімпійскі чэмпіён па цяжкай атлетыцы распавёў «Народнай Волі» пра тое, чаму ў Барысаве ў яго гонар павінна быць названа вуліца, пра стыпендыю ў тысячу долараў, хуткае папаўненне ў сям'і і бутэльку гарэлкі, якую яму падарылі пасля чэмпіянату свету.*

У інтэрнэце з'явілася петыцыя, у якой прапануецца назваць адну з вуліц Барысава імем алімпійскага чэмпіёна Андрэя Арамнава, які жыве і трэніруецца ў гэтым горадзе.

*«У Барысаве ёсць мноства вуліц, што носяць імёны людзей, якія не маюць да горада ніякага дачынення,* – напісалі аўтары петыцыі. – *Тады як карэнныя барысаўчане нярэдка пакутуюць ад няўвагі і непрызнання з боку гарадскіх і рэспубліканскіх улад. Адзін з такіх – чэмпіён XXIX летніх Алімпійскіх гульняў, якія праходзілі ў Пекіне ў 2008 годзе, выбітны цяжкаатлет, неаднаразовы рэкардсмен свету Андрэй Арамнаў. Андрэй прынёс сусветную славу не толькі гораду, але і краіне».*

– Насамрэч я вельмі добра паставіўся да такой ініцыятывы, – кажа Арамнаў. – Даўно хачу, каб у раённым цэнтры адзначылі ўвагай галоўнага патрыёта горада. Думаю, мой патрыятызм заслугоўвае таго, каб у Барысаве была вуліца Арамнава.

**– Відаць, чыноўнікі мяркуюць некалькі інакш, бо яшчэ год таму да барысаўскіх мясцовых улад звярталіся з просьбай назваць альбо вуліцу, альбо стадыён у гонар былога ўладальніка футбольнага клуба БАТЭ Анатоля Капскага, але воз да гэтага часу на месцы.**

– Я хацеў бы, каб вуліца Арамнава перасякала вуліцу Капскага. Але чыноўнікі ў нас і на самай справе не зварухнуцца з месца, пакуль іх хтосьці не калупне. Сядзяць у сваіх крэслах і думаюць, што гэта яны цэнтравыя і зямля круціцца вакол іх. Яны ж законы для сябе пішуць, а не для народа. Самі законы пішуць, самі за сябе галасуюць. Хаця што вы зрабілі ў сусветным маштабе?

**– Можа, проста баяцца ўзяць на сябе адказнасць за перайменаванне вуліц, зыходзячы з таго, што нярэдка ініцыятыва караецца?**

– Насамрэч я не ведаю, чым яны кіруюцца, але, мяркую, калі б чыноўнікі надавалі больш увагі людзям, якія праслаўляюць Беларусь на міжнародным узроўні, то і талентаў у нашай краіне было б больш. А алімпійскіх чэмпіёнаў у Беларусі не так і шмат, чаму б і на самай справе не ўшанаваць іх?

**– Адносна не так даўно вы заваявалі на чэмпіянаце свету «серабро». Ці ўдалося пасля гэтага некуды з'ездзіць і адпачыць?**



– Нікуды не ездзіў, бо ў бліжэйшы час у нашай сям'і чакаецца значная падзея – нараджэнне сына. Таму трэба быць побач з жонкай, дапамагаць ёй і трэніравацца. Хаця пасля сусветнага першынства я вырашыў крыху збавіць нагрузкі.

**– У вас жа яшчэ дачка ёсць…**

– Так, Даша ходзіць у другі клас.

**– Пасля «серабра» на чэмпіянаце свету вас нейкім чынам адзначылі дома?**

– Не забыліся. Мая спартшкола выпісала мне грашовае ўзнагароджанне, а ад абласнога цэнтра алімпійскай падрыхтоўкі падарылі вельмі прыгожую літровую бутэльку гарэлкі. Я да гэтага часу не магу прыйсці ў сябе ад такога падарунка!

**– Пакаштавалі?**

– Не скажу.

**– Прэзідэнцкую стыпендыю ці атрымліваеце зараз?**

– Так, яе налічылі адразу пасля перамогі на чэмпіянаце Еўропы. Так што фінансавае становішча больш-менш нармалізавалася, але хачу сказаць, што падрыхтоўка да спаборніцтваў стала вельмі дарагой.

Таму нават гэтай стыпендыі не заўсёды хапае, каб можна было сур'ёзна падрыхтавацца. Заўсёды шукаю дадатковую дапамогу, каб крыху грошай заставалася яшчэ і для сямейнага бюджэту.

**– Які зараз памер прэзідэнцкай стыпендыі?**

– Каля тысячы долараў у месяц.

**– Вы ведзяце яшчэ свой блог на «Ютубе», гэта прыносіць нейкую капейку?**

– Ён прыносіць мне толькі маральнае задавальненне.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

РУБАМ!

# Чаму старшыня Гродзенскага аблвыканкама Уладзімір Краўцоў не трымае слова?

## *Яшчэ раз пра роўныя ўмовы існавання беларускай і рускай моў...*

Сталы сябра ГА «Таварыства беларускай мовы» ў Гродне пенсіянер Аляксандр Місцюкевіч не першы год дамагаецца ад улад, каб у Гродне хаця б у афіцыйных сферах на роўных умовах з рускай мовай выкарыстоўвалася беларуская. Вынік несуцяшальны.

Пачынаючы з 2017 года Аляксандр Іванавіч разам з калегамі па Таварыстве беларускай мовы распачалі кампанію па вяртанні беларускамоўных шыльдаў на будынкі дзяржаўных арганізацый і ўстаноў.

Заканадаўства, якое пачало дзейнічаць у краіне пасля рэферэндуму 1995 года, гарантавала роўныя ўмовы для рускай і беларускай моў, але, як заўважае Місцюкевіч, нават з будынкаў дзяржаўных устаноў і арганізацый у абласным цэнтры пазнікалі шыльды з беларускамоўнымі надпісамі. Дарэчы, падобная замена шыльдаў вялася тады па ўсёй краіне.

«*Калі яшчэ да пенсіі я працаваў у вучэбным цэнтры «Гроднаэнерга», да нас адразу пасля таго рэферэндуму грукаліся актывісты ветэранскай арганізацыі з патрабаваннем замяніць беларускамоўную шыльду на рускамоўную,* – згадвае Місцюкевіч. – *Памятаю, што гэта былі адстаўнікі, прычым пераважна ўраджэнцы Расіі. Патрабаванні іх былі агрэсіўныя і без якіх-кольвек тлумачэнняў*».

А з часам, паводле слоў Місцюкевіча, шыльды сталі знікаць: з будынкаў падатковай інспекцыі, пракуратуры, у школах пачалі набіраць толькі рускамоўныя класы, зніклі назвы прыпынкаў на беларускай мове, а беларускамоўныя назвы на таварах у крамах пачалі пісацца ў рускай транскрыпцыі.

«*У выніку мы маем тое, што беларуская мова наогул знікла з практычнага ўжытку не толькі на шыльдах і ў рэкламе, а і ў тэлебачанні, кіно, тэатры, у дзіцячых садках, школьных класах, універсітэтах, у кабінетах чыноўнікаў...* – сумна заўважае Аляксандр Іванавіч. – *Памятаю, як у той час перад прыездам у Гродна лідара Расійскай дзярждумы Селязнёва УЖРЭП Кастрычніцкага раёна ў спешным парадку замяняў шыльды з назвамі вуліц па-беларуску на рускамоўныя. І ніхто тады нічога слухаць не хацеў*».

Рознага кшталту публікацыі сябраў ТБМ і іншых грамадзян Беларусі ў незалежных СМІ ў абарону беларускай мовы, са слоў Місцюкевіча, сітуацыю не выпраўлялі. Больш таго, улады папросту не звярталі на гэта ўвагі.

У 2017 годзе Місцюкевіч разам з сябрамі па ТБМ запісаліся на прыём да намесніка старшыні Гродзенскага аблвыканкама **Віктара Ліськовіча** і аргументавана выказалі яму заклапочанасць сітуацыяй, якая склалася са станам беларускай мовы ў Гродзенскай вобласці. У прыватнасці, са слоў Місцюкевіча, размова вялася пра тыя ж зніклыя беларускамоўныя шыльды, пра замену беларускіх надпісаў у назвах вуліц і на рэкламе, пра нежаданне чыноўнікаў адказваць па-беларуску, пра адсутнасць беларускіх школ у горадзе, пра замену назваў прыпынкаў.

«*Тады нам далі пісьмовы адказ, у якім гаварылася, што дадзены даручэнні структурам абласнога выканаўчага камітэта, гарвыканкамаў, з тым каб выправіць сітуацыю*, – згадвае Аляксандр Іванавіч. – *Праўда, прайшоў год, потым яшчэ адзін, а сітуацыя змяняецца толькі ў горшы бок*».

Сёлета актывісты ТБМ запісаліся на прыём да старшыні аблвыканкама **Уладзіміра Краўцова** і зноў выклалі цяпер ужо самаму высокаму чыноўніку ў вобласці факты парушэння заканадаўства ў сферы прымянення беларускай мовы.

«*Краўцоў нам адказаў, што даваў даручэнні выправіць становішча ў прыватнасці з шыльдамі на дзяржаўных установах і арганізацыях, але чаму гэта не выканана – адказаць не змог*, – распавядае Місцюкевіч. – *Нам ізноў абяцалі і нават далі пісьмовы адказ, у якім ужо гаварылася, што з аблвыканкама разасланы рэкамендацыі ва ўстановы і арганізацыі горада, з тым каб выправілі сітуацыю з надпісамі на шыльдах*».

Праўда, кажа Аляксандр Іванавіч, рэкамендацыі дагэтуль застаюцца рэкамендацыямі, і ніхто не спяшаецца іх выконваць. Сябры гродзенскай арганізацыі ТБМ у мінулым месяцы правялі на цэнтральных вуліцах Гродна маніторынг, у выніку якога высветлілася, што з 24 будынкаў дзяржаўных устаноў і арганізацый шыльды на дзвюх мовах змешчаны толькі на двух. На чатырох установах шыльды толькі з беларускімі надпісамі, а на 18 – выключна на рускай мове. І гэта толькі ў цэнтры горада.

«*На ўсіх сустрэчах з прадстаўнікамі ўлады па гэтай праблематыцы даводзіцца нагадваць, што беларуская мова дала назву тытульнай нацыі і назву нашай краіне*, – канстатуе Місцюкевіч. – *Але нават ад самых высокіх чыноўнікаў у адказ чуеш аргумент: а мне, хоць я і беларус, зручней размаўляць па-руску*».

У выніку хаджэння па самых розных чыноўніцкіх кабінетах Аляксандр Місцюкевіч прыйшоў да высновы, што палова з іх гаспадароў беларускай мовай наогул не валодаюць.

«*Прычым, як я зразумеў, гэта не толькі людзі з тэхнічнай адукацыяй*, – заўважае Місцюкевіч. – *Не ведаюць беларускай мовы ў аддзелах адукацыі і культуры, у судах і пракуратуры, у школах і шпіталях... А самае страшнае, што большасць дзяцей у школе не разумеюць беларускай мовы, і да гэтага нікому няма ніякай справы*».

Сталы сябра ТБМ задаецца пытаннем: што рабіць? Можа, нехта яму ўсё ж адкажа...

**Міхал КАРНЕВІЧ.**

МУДРЫЕ МЫСЛИ

*Не всегда говори, что знаешь, но всегда знай, что говоришь.*

***Клавдий.***

У ФОКУСЕ

# Дарога паміж Аўгустовам і Гродна можа скараціцца на 50 кіламетраў

*Пытанне аб адкрыцці яшчэ аднаго пункта пропуску на беларуска-польскай граніцы скранулася з месца. Польскі гарадок Ліпск атрымаў 65 мільёнаў злотых на мадэрнізацыю дарогі №664, якая вядзе да беларускай граніцы. Аб гэтым паведамілі польскія СМІ.*

Пытанне аб адкрыцці новага пагранічнага пераходу «Сафіёва-Ліпшчаны» знаходзілася ў стадыі абмеркавання некалькі гадоў. І вось член Савета самакіравання Ліпска **Павел Унукоўскі** паведаміў у сваім «Фэйсбуку», што пачынаецца будаўніцтва дарогі ад Ліпска да граніцы, а ўжо наступным крокам павінна стаць адкрыццё пункта пропуску, які дасць новы імпульс у развіцці адносін паміж краінамі.

Гродзеншчына зацікаўлена ў пагранпераходзе, так як гэта істотна спросціць перасячэнне граніцы і падвысіць цікавасць бязвізавых турыстаў. Госці змогуць перасекчы граніцу на Аўгустоўскім канале, а вярнуцца ўжо праз Сафіёва. Інфраструктура з беларускага боку ўжо падрыхтавана – дарогі да плануемага пункта пропуску рэканструяваны ў межах міжнародных праектаў.

Калі запрацуе пункт пропуску «Сафіёва–Ліпшчаны», дарога паміж Аўгустовам і Гродна скароціцца на 50 кіламетраў.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

ФАКТ

# Чарга стаяла амаль дзень

*У Гомель прыйшоў «МакДональдс»*

«*Цяпер Гомель можна лічыць еўрапейскім горадам – у нас свой «МакДональдс»*, – жартавалі дасціпныя гамельчукі, стоячы ў чарзе перад рэстарацыяй хуткага харчавання.

Ад поўдня 2 лістапада, калі дзверы «МакДональдса» толькі адчыніліся, і да самага вечара тут не ўбывала чарга. Некалькі дзясяткаў чалавек ад малых да вялікіх чакалі, пакуль папярэднікі пачастуюцца знакамітымі бургерамі.

Сама зала рэстарацыі разлічана на 120 асоб. Зручныя касы самаабслугоўвання, інтэрактыўныя сталы з планшэтамі для гульняў і выхаду ў інтэрнэт, асобны пакой для ўрачыстасцяў – «МакКафэ».

Пры рэстарацыі абсталявана невялікая дзіцячая пляцоўка і асобная зона абслугоўвання «МакДрайв». Праз тыдзень тут плануецца адкрыць яшчэ і спецыяльную «МакДастаўку».




**Анатоль ЛІПСКІ.**

**На здымку: «МакДональдс» у Гомелі на вуліцы Савецкай.**

РЭГІЁН

# Кандыдаты ў дэпутаты наведалі «Гомельскія Курапаты»

*На памятных мерапрыемствах прысутнічаў **Юрый Клімовіч** – сын вязня Гарлага **Рыгора Клімовіча** – аднаго з кіраўнікоў паўстання ў нарыльскім лагеры, пахаванага на радзіме – на могілках вёскі Асавіно.*

На Дзяды грамадскія актывісты Гомеля супольна з чатырма дэмакратычнымі кандыдатамі ў дэпутаты парламента ўшанавалі памяць ахвяр сталінскіх палітычных рэпрэсій. Пад бел-чырвона-белым сцягам яны прыйшлі на 9-ы кіламетр Чарнігаўскай шашы да помніка, які ўсталяваны тут у 90-х гадах мінулага стагоддзя на памяць бязвінна расстраляных мірных жыхароў. На помніку таблічка: «*Адно з месцаў масавых расстрэлаў ахвяр бальшавіцкай дыктатуры ў перыяд 1919–1940 гадоў*».

Да пакутнага крыжа актывісты ўсклалі вянок. За гадзіну да гэтага тут прайшло жалобнае набажэнства каталікоў – яны запалілі знічы.

Распачынаючы жалобную імпрэзу, гомельскі палітык, кандыдат у дэпутаты па Гомельскай-Сельмашаўскай выбарчай акрузе №32 **Уладзімір Кацора** зазначыў:

«*Да гэтай пары мы не маем поўнага спісу, колькі людзей было расстраляна і ляжыць у гэтых навакольных лясах. Але я ўпэўнены: недалёка той час, калі ўсё раскрыецца. Будуць і сведкі, якія раскажуць, хто і калі ўчыняў тут злачынствы. Беларусі патрэбны перамены, патрэбна непрыхаваная праўда*».

Актывістка руху «Маці 328», кандыдат у дэпутаты па Гомельскай-Савецкай выбарчай акрузе №34 **Таццяна Канеўская** ўспомніла і свайго дзеда Вацлава Лазарэвіча, які быў рэпрэсаваны і высланы на поўнач Расіі, дзе яго і расстралялі. Маці актывісткі з братам гадаваліся ў дзіцячым доме. Іх трохгадовы брацік памёр па дарозе да месца высылкі, калі плылі на баржы па рацэ. Яго не пахавалі – выкінулі проста ў раку.



Таццяна Канеўская выказала заклапочанасць будучыняй Беларусі як незалежнай дзяржавы. Яна адзначыла таксама, што частка маладых людзей сядзіць у турмах за нязначныя правіны, іншыя з'язджаюць за мяжу, каб там знайсці прымяненне сваім ведам і здольнасцям.

Ад пакутнага крыжа працэсія выправілася на могілкі вёскі Асавіно, дзе пахаваны вязень савецкіх лагераў, адзін з кіраўнікоў паўстання ў нарыльскім Гарлагу **Рыгор Клімовіч**.

Разам з актывістамі на могілкі прыехаў і сын змагара – **Юрый Клімовіч**.

«*З гадамі памяць зацяруліваецца. Людзей, якія прайшлі праз лагеры савецкага рэжыму і ацалелі, практычна не засталося. Цяперашнія нашчадкі рэпрэсаваных, іх унукі часам нават не ведаюць, што перажылі іхнія дзяды. Некаторыя рэпрэсаваныя самі не расказвалі сваякам пра свой лёс – саромеліся ці з нейкіх іншых прычын маўчалі. Майму бацьку трэба аддаць належнае – ён не маўчаў. Намогся, успомніў, напісаў і выдаў кнігу «Канец Гарлага». Яго голасам гавораць тысячы людзей, што зведалі сталінскі палітычны тэрор. І мы не павінны пра гэта забываць*», – нагадаў Клімовіч-малодшы.

Да сціплага абеліска на магіле Рыгора Клімовіча гамельчукі ўсклалі вянок з надпісам на жалобнай стужцы – «Змагару за правы палітычных рэпрэсаваных».

**Анатоль ЛІПСКІ.**

**На здымку: каля пакутнага крыжа на 9-м кіламетры Чарнігаўскай шашы.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

# Суд у Брэсце прысудзіў расіянцы 17 гадоў калоніі

38-гадовая жыхарка Масквы была затрымана 2 мая ў пункце пропуску «Дамачава». Яна перавозіла праз мяжу найбуйнейшую за апошнія 25 гадоў партыю псіхатропаў і наркотыкаў.

Як нагадвае БЕЛТА, расіянка следавала з Польшчы на аўтамабілі Chrysler па чырвоным калідоры, прадставіўшы да дэкларавання электрасамакат і падлогавы кандыцыянер. Аднак пры аглядзе аўтамабіля быў знойдзены схаваны ад кантролю тавар.

Разам з супрацоўнікамі памежнай службы ў салоне і багажніку аўто былі выяўлены спецыяльныя тайнікі. З канструктыўных адсекаў дасталі 100 палімерных упаковак агульнай вагой больш за 100 кілаграмаў, у якіх знаходзіліся крышталічнае рэчыва бежавага колеру, а таксама тры палімерныя брыкеты са спрэсаваным рэчывам (550 г). Хімічная экспертыза вызначыла, што канфіскаваны парашок з'яўляецца асабліва небяспечным псіхатропным рэчывам МДМА (экстазі). Таксама быў знойдзены гашыш.

Суд прызнаў расіянку вінаватай у захоўванні, перавозцы, а таксама перамяшчэнні праз мытную мяжу наркатычных сродкаў і асабліва небяспечных псіхатропных рэчываў у буйным памеры, гэта значыць у здзяйсненні злачынстваў, прадугледжаных ч.3 арт.328 і ч.2 арт.328-1 КК. Па сукупнасці злачынстваў ёй прызначана пакаранне ў выглядзе 17 гадоў пазбаўлення волі з адбываннем у папраўчай калоніі агульнага рэжыму.

Прысуд не ўступіў у законную сілу і можа быць абскарджаны і апратэставаны ў апеляцыйным парадку ва ўстаноўлены тэрмін.

НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА



Борис ЖЕЛИБА,
профессор,
доктор экономических наук

# Оптимизм Турчина под вопросом!

Программа реформ, которую Беларусь готовит вместе со Всемирным банком, находится в высокой степени готовности, но просить финансовой поддержки МВФ для ее реализации пока не планируется. Так заявил первый вице-премьер А.Турчин на полях Октябрьского экономического форума.

Отвечая на вопрос о судьбе проблемных государственных предприятий и их выживании в условиях сокращения бюджетной и иной поддержки, высокий чиновник сказал, что сейчас идет распределение их по категориям: работающие устойчиво; нуждающиеся в реструктуризации долгов; неспособные выжить без господдержки. Заметим, это все в точности, как предложили сделать в свое время МВФ и Всемирный банк, чтобы получить шансы на запрашиваемый у фонда кредит в 3–3,5 миллиарда долларов. Со слов первого вице-премьера выходит, что лед тронулся и правительство находится на верном пути к реформированию госсектора. По оценке А.Турчина, из первой сотни крупнейших открытых акционерных обществ (ОАО) с преобладанием доли государства все – заметьте, все! – предприятия способны работать в рыночных условиях. Эту первую сотню правительство, насколько мы понимаем, не обнародовало, но раз это крупнейшие ОАО, то можно узнать некоторые из них.

Однако с этим бодрым заявлением достаточно резко контрастируют выводы, к которым пришли исследователи НИИ Минэкономики. Госсектор Беларуси насчитывает свыше 14 тысяч организаций, в том числе 10 тысяч различных госучреждений, более 2 тысяч унитарных предприятий. На коммерческую часть госсектора выпадает три четверти промышленного производства, около трети экспорта товаров и услуг, тогда как в развитых странах доля госсектора составляет в среднем 15 процентов. При этом организации с госкапиталом присутствуют не только среди крупных предприятий, но и среди малых и средних. Около 70 процентов всех коммерческих организаций госсектора можно классифицировать как микро-, малые и средние, их вклад в валовую добавленную стоимость составляет менее одного процента. Производительность труда на госпредприятиях зачастую в разы ниже, чем у частников. Рентабельность госсектора из года в год снижается, каждая вторая организация является убыточной либо работает с рентабельностью менее 5 процентов, а каждая третья организация неплатежеспособна. Кроме неэффективного управления и отсутствия притока прямых иностранных инвестиций госпредприятия имеют множество обременений вплоть до присоединенных убыточных сельхозпредприятий.

Крупные и средние предприятия Беларуси наращивают обязательства перед кредиторами. Только за неполный 2019 год их долги выросли на несколько миллиардов рублей. Решающий вклад в эти миллиарды, как можно догадаться, делают госпредприятия. По состоянию на 1 сентября 2019 года суммарная задолженность – а это кредиторская задолженность и долги по кредитам банкам и займам – достигла 128,1 миллиарда рублей, что сопоставимо с ВВП страны. Больше всего долгов числилось за обрабатывающей промышленностью – 57,6 миллиарда рублей. Далеко не все акции госкомпаний переданы, как того предписывал МВФ, в управление Госимуществу, государство предпочитает по-прежнему оставлять эти функции министерствам, госкомитетам, а на местах – исполкомам.

Раз речь у первого вице-премьера идет о сотне крупных ОАО, то в их числе наверняка наши известные флагманы. Вот «финансовые портреты» некоторых известных ОАО.

В 2018 году МАЗ получил прибыль от реализации 31 миллион рублей при выручке 1 миллиард 290 миллионов. Однако вывести МАЗ на чистую прибыль не удалось, поэтому чистый убыток предприятия за прошлый год составил 80,4 миллиона рублей. Завод несет чистые убытки уже 5 лет подряд. Он остается одним из самых закредитованных предприятий Беларуси. На начало года обязательства по долгосрочным займам у МАЗа составили 470,7 миллиона рублей, по краткосрочным – 102,5 миллиона. У предприятия большая кредиторская (343,2 миллиона) и дебиторская задолженность (329,8 миллиона рублей). В 2015 году власти спасали МАЗ от сбытового кризиса, связанного с обвалом российского рынка из-за санкций Запада, выделив один триллион рублей помощи. Помимо этого, в 2014–2017 годах завод размещал четыре выпуска валютных облигаций, выкупленных банками.

Если в 2017 году «Гомсельмаш» показал незначительную чистую прибыль – 978 тысяч рублей, то за 2018 год он понес убыток в 107,9 миллиона рублей. Предприятие многократно получало государственную поддержку. Выручка снизилась с 495,3 миллиона рублей в 2017 году до 413,2 миллиона за прошлый год. Прибыль от реализации в 36,5 миллиона рублей многократно перекрыта отрицательными курсовыми разницами и платежами по ранее полученным кредитам и займам. Убыток «Гомсельмаша» от инвестиционной и финансовой деятельности достиг 159,1 миллиона рублей. Пришлось «оптимизировать» персонал – с 8801 до 8615 человек. Не платят дебиторы – дебиторка выросла до 596,4 миллиона рублей. В 2017 году запасы готовой продукции были на сумму 137 миллионов рублей, в 2018 году – 255,9 миллиона. «Гомсельмаш» страшно закредитован: долги по кредитам и займам – свыше одного миллиарда рублей. Кредиторская задолженность – 548,2 миллиона. Предприятие также размещало облигационные займы.

После модернизации у бобруйской «Белшины» остались огромные долги по кредитам. Завод работает с убытками уже три года подряд. При выручке в 785,3 миллиона рублей непокрытый убыток на 1 января 2019 года достиг 314 миллионов рублей. Прибыль от реализации продукции составила в 2018 году всего 21,8 миллиона рублей и была «съедена» убытками от инвестиционной и финансовой деятельности, которые составили 11,8 миллиона. Убытки также образуются за счет курсовых разниц и процентных выплат по долгам. В результате чистый убыток за прошлый год – 132 миллиона рублей. Среднесписочная численность работников Белшины сократилась на 4,2 процента.

Этот список «способных работать в рыночных условиях предприятий» можно продолжить. Задаешься вопросам: не слишком ли оптимистично заявление А.Турчина о первой сотне ОАО? Как он высказался, о новой господдержке таких предприятий не может быть и речи. В крайнем случае – реструктуризация задолженности. По его мнению, не останутся в стороне и вопросы социальной поддержки, запланирована разработка закона о занятости. И это правильно, поскольку оздоровление госпредприятий неминуемо повлечет сокращение персонала. В январе–сентябре текущего года на крупных и средних предприятиях было уволено 570 тысяч человек, а принято 532 тысячи. НИИ Минэкономики утверждает, что концепция закона о государственном секторе уже практически разработана.

Ведь времени на раздумья у правительства больше нет. Беларусь, если хочет сохранить свой суверенитет, вступит в 2020 год без российской финансовой поддержки. Поскольку своими силами власти могут погасить только одну четверть внешних долгов, на сегодня дешевый кредит МВФ может послужить спасением. Чтобы его получить, правительство знает, что делать. Ему нужны только полномочия первого лица. Их пока нет. Поэтому планы реформирования экономики остаются только на бумаге.

НОУ-ХАУ

# Без адключэння гарачай вады...

*У Гродзенскай вобласці пачынаюць будаваць дамы з электрычнай сістэмай ацяплення і падагрэву гарачай вады.*

Першыя такія дамы будуць пабудаваны ў горадзе Слоніме Гродзенскай вобласці. У іх ужо не будзе газавых труб у кухні, а ў падвалах не стане цеплавузлоў і знікнуць цеплатрасы ў дварах. На кожным паверху дома з'явяцца па два лічыльнікі – адзін будзе паказваць кілаваты спажытай электраэнергіі, другі – тыя, што сышлі на ацяпленне і падагрэў вады.

Для прыгатавання ежы жыльцы будуць карыстацца электрычнай плітой, для падагрэву вады ўсталююць электрабойлеры. Для кожнага такога дома ў двары давядзецца збудаваць асобную трансфарматарную падстанцыю.

Ужо ў наступным годзе плануецца, што пасля Слоніма аналагічныя дамы з'явяцца ў Гродне і ва ўсіх буйных райцэнтрах вобласці. З'яўленне такіх дамоў наўпрост звязана з запускам Беларускай атамнай станцыі.

**Аляксей МІХАЛЁЎ.**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Увечары дзяцюк адчуў, што ён парсюк

У Добрушскім раёне п'яны мужчына залез у чужы хлеў, учыніў у ім пажар і ледзь не згарэў.

У хаце чалавек жыве,
Яму там вельмі добра.
А хто ж заўжды жыве ў хляве?
Шматлікая худоба:
Авечкі, козы, парсюкі,
Жарэбчыкі, каровы…
Ім даспадобы хлеў, які
Утульны, цёплы, новы.
Хтось можа палічыць за здзек
Ці розыгрыш вясёлы,
Але напраўду чалавек
Парой накшталт жывёлы.
Ішоў, да прыкладу, дзяцюк
Увечары дахаты.
На жаль, яго сагнуў у крук
«Зялёны змей» пракляты.
Дзяцюк пакрочыў не туды,
Дзе родная «палова».
Яго направілі глузды
У хлеў, дзе спіць карова.
Прычым той хлеў не свой – чужы,
Абрыдлае суседкі.
Звычайна брудныя бамжы
Начлег шукаюць гэткі.
І ледзь не стаў труною хлеў:
Звалілася цыгарка,
І сам дзяцюк амаль згарэў,
І хлеў успыхнуў ярка.
Дабіўся п'яны гламазда,
Што пойдзе хлеў на дровы.
Камусьці дзецюка шкада,
А мне шкада каровы…

* * *

Яшчэ з далёкай даўніны
Гавораць нашы людзі
(І ў тым нямашака маны),
Што п'яны – быццам дзюдзя.
Таму яго й цягнула ў хлеў,
Што быў дзяцюк паддаты:
Хутчэй патрапіць захацеў,
Як і парсюк, дахаты…

## Што такое некралог?

Я зрабіць выснову змог,
І пацвердзіла статыстыка:
Што такое некралог?
Лепшая характарыстыка!

## Замест псіхолага

І сапраўды карысна часам
Пабыць з псіхолагам сам-насам.
Ды ў нас нягеглыя зарплаты,
І дзешавей выкрыкваць маты…

## Апаска

Чаму ўрачы чапляюць маску
Сабе на твар падчас работы?
Бо маюць, мусібыць, апаску,
Што хворыя пазнаюць потым…

ДИСКУССИЯ

# Когда в класс приносят лягушку…

Я полностью согласна с автором статьи «Какие учителя, такие и ученики», опубликованной в «Народной Воле» 18 октября. Действительно, самое главное – это совершенное владение предметом преподавания и личные отношения с учащимися.

За мои 46 лет работы в школах (сельских, городских, вечерней), гимназии, ПТУ ни разу не было конфликта. Это не потому, что все дети были золотые. Всякие были, но очень многое зависело от меня.

После института работала учителем химии-биологии в сельской школе (1960-е годы). Помню, в 5-м классе был ученик Виктор, любитель подебоширить. Сидел, естественно, за последней партой. Прихожу на урок. В классе непривычная тишина: ученики поглядывают то на меня, то на Виктора. Боковым зрением вижу: он пострижен наголо, и у него что-то лежит на голове. Начинаю урок. Сидящая за первой партой девочка Нина тянет руку. «Что Нина?» – «Виктор принес в класс лягушку!» – «Ну что ж, пусть и она поучится».

Через какое-то время Виктор нетерпеливо дергает рукой. «Что ты хочешь, Виктор?» – «Можно вынести лягушку?» – «Можно». Не получив ожидаемой реакции, он потерял интерес к зеленому чуду. Инцидент был исчерпан.

Перед приездом в школу я купила себе туфли красного цвета. Подумала: прозовут «гусь». И как в воду глядела – вслед слышала: «Гусь пошла». Я никак не реагировала.

Прихожу в этот же класс на урок немецкого (в школе не хватало специалиста). На доске большими буквами написано слово «гусь». Я никак не реагирую, начинаю урок. Виктор тянет руку вверх. «Что, Виктор?» – «Тамара Ивановна, а как будет «гусь» по-немецки?» Я улыбнулась: «То, что вы зовете меня «гусь», я знаю. А вот как будет по-немецки, не знаю. Посмотрю в словаре, потом скажу». После этого случая я уже больше не слышала этой клички.

В ПТУ была группа, в которой девять мальчиков были из одной школы, и все имели судимость. За первый год учебы там поменялось несколько мастеров производственного обучения и классных руководителей. Дирекция думала досрочно выпустить их, выдав справки. В начале второго года обучения меня назначили классным руководителем – и вся группа закончила училище, как и положено, после III курса, всем была присвоена квалификация.



Сказать, что с ними было нелегко, – ничего не сказать. Но я ни разу не повысила голоса, брала только убеждением. Учащиеся сами убирали аудиторию, и я оставалась с каждым дежурным. И как бы они ни утверждали, что им «западло» это делать, видя, как я вместе с ними протираю пол, выполняли свои обязанности.

На выставку «Шедевры из овощей» я выставляла экспонаты под фамилиями учащихся, ездила в областной центр на тренировки и выступления, на соревнования по вольной борьбе. Всем родителям посылала открытки-поздравления, где писала и благодарности за хорошее воспитание сыновей.

Посещала учащихся на дому, но не для того, чтобы пожаловаться, а для того, чтобы изучить семейную обстановку, дать рекомендации.

И лед тронулся. Парни начали менять свое поведение и отношение к учебе.

Все 46 лет педагогической деятельности занималась самообразованием. Полученные знания использовала на практике. На каждом уроке рассказывала, где может пригодиться изучаемая тема.

На первом уроке, знакомясь с каждым учащимся, называю фамилию. Он встает, а я смотрю ему в глаза. Потом киваю головой, и он садится. Объясняю: читаю их мысли, кодирую на усвоение предмета.

Также на первом уроке знакомлю их со своими приемами. Например, если учащийся расшалился, не может привести себя в чувство, он должен поднять руку. Я без слов киваю головой, тогда он может выйти из класса, походить по коридору, попить воды и вернуться на урок. Сначала не верили, но я строго придерживалась этого правила, и ребята этим не злоупотребляли.

По-новому проводился опрос по химии – вызывала сразу трех человек. Один решал задачу на доске, второй – за первой партой, третий отвечал устно у доски. Предлагала остальным дополнить ответ. За это тоже ставились оценки. При объяснении нового материала вызывала ученика писать уравнения реакции по примеру уже изученной подобной темы. За это и за интересные вопросы – тоже оценка. Накопляемость оценок была высокая. Оценку я не сразу ставила в журнал, а спрашивала, удовлетворен ли учащийся. Если нет, предлагала встретиться после уроков. Если при беседе он показывал знания, оценка повышалась. Если не было знаний, я говорила: «Извини, остается та оценка, что была получена в классе». За каждый урок выставлялось до десяти оценок.

Проводила уроки-лекции. Например, о сквернословии («Нам не дано предугадать, как слово наше отзовется»), о вреде курения («Когда дело табак») и об алкоголе («Когда человек сам себе враг»).

Проводила интересные тематические вечера с демонстрацией химических опытов.

Как-то, присутствуя на областном совещании руководителей учебных заведений, услышала от директора техникума: «У нас есть студенты, которые не умеют читать». Я засомневалась: как такое возможно? Но… Как-то на уроке вызываю одного парнишку. Он, вижу, не может ничего сказать по теме. Я предлагаю ему сесть, прочитать материал и затем пересказать текст. И третья, и четвертая попытки не дали положительного результата. Вспомнив слова того директора, я предлагаю учащемуся прочитать вслух. Не получилось. Но после нескольких попыток смог все же пересказать нужный текст. Вначале я ставила ему оценку за чтение, а потом он научился хорошо читать и делать логичный пересказ.

Учила учиться – составлять конспект темы. Вначале перечисляли всё подряд, потом стали составлять вопросы и давать на них краткие ответы. Успеваемость улучшалась.

Недавно беседовала с учеником средней школы. Поинтересовалась проведением практических работ. Оказывается, опыты они не проводят, а описывают, как будто проводят. Это был шок для меня! Потому что, сколько я работала, все опыты проводились, и ребятам нравилось самим химичить, но строго соблюдая технику безопасности.

Возможно, современные ученики, особенно девушки, плохо владеют навыками проведения опытов, поэтому учителя им не дают действовать. А возможно, нет необходимых реактивов.

Сейчас поступающие в вузы и ссузы проходят тестирование. Но есть выражение: «Заговори, чтобы я увидел тебя». Поэтому, считаю, нужно проводить еще и собеседование, а также проверять ребят на наличие логики и способности мыслить самостоятельно.

**Тамара Ивановна ШЕВЧЕНКО,**
**учитель химии-биологии высшей категории.**
*г.Фаниполь Дзержинского района.*

Я ПРЕДЛАГАЮ…

# Штаб-квартиру ООН – в Минск!

Я обращаюсь к президенту Республики Беларусь, премьер-министру, председателю Мингорисполкома и к столичным депутатам. У меня ко всем одно предложение: задумайтесь над тем, как сделать, чтобы штаб-квартира Организации Объединенных Наций переселилась из Нью-Йорка в Минск. Если бы это произошло, то не только сильно возрос бы престиж нашей страны, но она получила бы дополнительные экономические выгоды, так как сюда переехали бы около трех тысяч дипломатов и хорошо оплачиваемых чиновников ООН.

Даже по приблизительным прикидкам Минск ежегодно имел бы почти 100 миллионов долларов. Не одна тысяча людей получила бы новые рабочие места.

Переезд штаб-квартиры ООН в Минск, если это произойдет, будет иметь массу преимуществ, потому что столица Беларуси – чистый, зеленый, спокойный город с множеством незастроенных площадок; имеет два миллиона жителей, а не более десяти, как в Нью-Йорке, где существует пугающий уровень преступности. Добавим еще, что Минск – довольно дешевый город, расходы, связанные с нахождением делегаций разных стран, стали бы для них на 30 процентов меньше, и каждое государство стремилось бы наилучшим образом обустроить их быт.

Заметим, климат Минска похож на нью-йоркский, хотя лето не такое жаркое и влажное.

И только две вещи мы не сможем пообещать дипломатам, если они переедут из Нью-Йорка в Минск: тут вы летом не сможете добраться машиной до моря за полтора часа, а зимой – спуститься на лыжах с гор. Хотя у нас прекрасные горнолыжные комплексы под Логойском.

Итак, у нашей столицы огромнейшие преимущества перед Нью-Йорком. Но я хочу предостеречь белорусские власти от одного: перенос штаб-квартиры Организации Объединенных Наций в Минск может быть реальным только в том случае, если наша страна по-прежнему будет являться независимым государством, а не одним из регионов Российской Федерации, как этого хочется кому-то в Москве.

Чтобы сделать первый шаг по приглашению ООН в Минск, я предлагаю на первой сессии нового парламента создать комиссию из разных представителей сообщества, которые оценили бы различные аспекты этой идеи и предоставили бы свои выводы на рассмотрение широкой общественности.



**Александр Граф ПРУШИНСКИЙ.**
*Минск.*

ПРАТЭСТ

# Мінус адзін беларус

З 21 па 30 кастрычніка сядзеў дома і чакаў, калі да мяне завітае перапісчык. Не дачакаўся. Не завітаў. А ў выніку на аднаго беларуса палічылі меней. А мо і не на аднаго?

Дзесяццю гадамі раней заходзілі аж тры разы. Першы раз не засталі дома, пакінулі запіску, калі прыйдуць наступным разам. У прызначаны час прыйшла жанчына, але мы з ёю размаўлялі на розных мовах і не здолелі паразумецца. Назаўтра завітала настаўніца, якая прыгожа размаўляла на нашай мове. Мы запоўнілі перапісны аркуш і з прыемнасцю развіталіся.

Хацелася паслухаць, як будзе на гэты раз. Ніяк! Мая асоба перапісчыкаў не зацікавіла. Чаму?

Дасведчаны знаёмец патлумачыў, што гэтым разам перапісваць прымусілі студэнтаў, якім зарплату за гэтую работу не плацілі, а абяцалі нейкія паблажкі падчас вучобы. Калі чалавеку не плацяць заробак, то няцяжка здагадацца, як ён (яна) будзе працаваць. Так і працавалі.

А паблажкі ці то зніжкі па вучобе… Гэта азначае, што ўніверсітэты выпусцяць горш падрыхтаваных спецыялістаў. Кваліфікацыя выпускнікоў ВНУ дзяржаву не турбуе? Такая ў нас дзяржава.

**Міхась БУЛАВАЦКІ.**
*Магілёў.*

ХАЧУ СКАЗАЦЬ…

## Вы можаце ўявіць, каб Трамп ставіў перад фермерамі такія задачы?

У адной з праўладных газет чытаю: «Прэзідэнт паставіў перад аграрыямі задачу да 7 лістапада завяршыць уборку сельгаскультур і сканцэнтравацца на пад'ёме зябліва, з якім таксама нельга зацягваць. У Брэсцкай вобласці не сумняваюцца, што патрабаванне кіраўніка дзяржавы будзе выканана…»

Вы можаце ўявіць, каб Трамп ставіў такія задачы перад амерыканскімі фермерамі? І наогул, што, у нас тыя ж аграрыі такія тупыя, што не ведаюць, у якія тэрміны трэба выкапаць бульбу, буракі, зрэзаць капусту? Чаму над імі прэзідэнту трэба стаяць у ролі пастуха?



Ці не крыецца праблема ў тым, што зямля не мае сапраўднага гаспадара? Сённяшнія сельскагаспадарчыя кааператывы – гэта па сутнасці ўчарашнія калгасы і саўгасы. Вядома ж, маёмасць не належыць канкрэтным людзям, яна, можна сказаць, нічыйная, а таму і сапраўднай адказнасці няма за лёс ураджаю. У такім выпадку ніякі наганяй прэзідэнта не выратуе сітуацыю ў сельскай гаспадарцы.

**Сяргей ПЕТРАШКЕВІЧ,**
**былы навуковец.**

СПАСИБО!

## «Мы будем доставлять вам почту прямо в руки»

Уважаемая «Народная Воля»!

Я одинокий пенсионер, инвалид II группы. Хочу через газету выразить благодарность работникам 8-го отделения связи г.Пинска за их заботу, внимание к престарелым людям. Особенно тем, кто отвечает за доставку почты. В первую очередь Елене Полюхович и Людмиле Борташ.

Пользуясь случаем, хочу рассказать свою историю. Мне уже 85 лет. Как-то вышел на улицу в ожидании почты, так как бывали случаи, когда из ящика вытаскивали газеты. Ко мне подходит молоденькая девочка-почтальон и спрашивает, в какой квартире я живу. И успокаивает: вся моя корреспонденция будет доставляться мне прямо в руки.

С тех пор так и делается. За что я очень признателен работникам почтового отделения. Большое спасибо его руководству!

**Петр Васильевич ЧИМБУР.**
*г.Пинск.*

ЛИЧНОЕ

# Как мне ее не хватает!..

Прошло чуть больше года, как моей любимой жены Ирины Григорьевны не стало на этом свете. Поскольку она, как и я, была приверженцем «Народной Воли» с первых ее номеров, то хочу рассказать о ней на страницах любимой газеты.

Родилась Ирина 6 марта 1935 года в городском поселке Козловщина, что на Гродненщине. Ее отец, придя с войны, заболел и рано умер, оставив семью с шестью малолетними детьми, в которой моя будущая жена была старшей. Поэтому ей пришлось очень много помогать маме по домашнему хозяйству – нелегко было прокормиться в то голодное время.

К несчастью, в 1951 году сгорел их дом, в огне погиб трехлетний мальчик. Мать осталась с пятью детьми без крова над головой. Можно представить, что ей пришлось пережить. Семью спасала корова-кормилица, и, конечно, главной помощницей матери была старшая дочь Ирина, которая пасла коров (по очереди) в поселке, ходила в соседний колхоз «Слава труду» серпом жать рожь во время уборки, смотрела за младшими сестрами и братом. Районные власти устроили мать на работу техничкой в райисполком, выделили жилье, всем детям купили одежду и обувь. Благодаря огромной силе воли матери и помощи властей удалось как-то выжить.



Время шло, дети хорошо учились, поступали в вузы, оканчивали их и устраивались на работу. Только старшей в семье Ирине пришлось учиться заочно. Она прекрасно занималась в школе, активно участвовала во всех общественных мероприятиях, поэтому ее после окончания десяти классов направили работать старшей пионервожатой в Яворскую среднюю школу. Затем в Козловщинском райкоме комсомола она стала заведующей пионеров и школьников, а через полгода обком ВЛКСМ направил ее на учебу в Москву на шестимесячные курсы в Центральную комсомольскую школу.

В это же время я, демобилизовавшись из армии, приехал работать в райисполком, где познакомился с ней. В 1955 году мы поженились и прожили счастливо 63 года. Жизнь порой не баловала нас, но мы и в радости, и в горе всегда находили поддержку и взаимопонимание.

Окончив филологический факультет Гродненского пединститута, моя жена всю дальнейшую жизнь посвятила сфере народного образования. Вот ее трудовая биография:

старшая пионервожатая Яворской СШ Козловщинского (ныне Дятловского) района;

зав.отделом пионеров и школьников Козловщинского РК ЛКСМБ;

директор Роготновской СШ Козловщинского района;

учитель Новоселковской СШ Пуховичского района;

секретарь Ганцевичского райисполкома Брестской области;

директор Будчанской СШ Ганцевичского района;

до выхода на пенсию – учитель русского языка и литературы Ганцевичской СШ №2.

Смена места жительства была связана с тем, что меня, коммуниста, партия посылала туда, куда считала нужным; в то время был лозунг «Раньше думай о Родине, а потом о себе», а моя верная спутница всегда следовала за мной.

Кроме официальной работы, у нее всегда был большой объем общественных нагрузок. Но где бы она ни работала, везде стремилась организовать художественную самодеятельность, была ее руководителем на районных и областных смотрах. За добросовестный труд мою жену награждали почетными грамотами роно, облоно, юбилейной медалью «За доблестный труд», она была победителем соцсоревнования 1973 года, являлась ветераном труда.

А как Ирина любила природу! В какой бы населенный пункт ни забрасывала нас судьба, она сразу же начинала знакомство с окружающей природой: где растут грибы и какие, где много ягод… Она настолько владела искусством их сбора, что никто с ней не мог соревноваться. Ей только бы попасть под кроны леса – ее оттуда трудно было вывести. Ирина часто проводила экскурсии по окрестностям для учеников. А в школе за ней всегда закрепляли выпускные классы и «трудновоспитуемых»: Ирина Григорьевна справится! Дети ее любили, и она от этого получала удовольствие.

В 2002 году мы переехали жить к дочери в Минск. В 2011 году у моей жены случился первый инсульт, в результате чего была парализована левая сторона. Но благодаря ее огромной силе воли, регулярным занятиям, а затем прогулкам на свежем воздухе она почти полностью восстановилась.

12 октября 2018 года (после еще двух инсультов) не стало моей дорогой и любимой жены. Как мне ее теперь не хватает! Смотрю на ее портрет, и слезы наворачиваются. Теперь я читаю «Народную Волю» один, а когда-то мы вместе обсуждали каждую статью, каждый факт. Помню те дни, когда власти хотели закрыть нашу любимую газету, и жена послала меня в редакцию, чтобы я выразил ей всяческую поддержку. Моя дорогая Ирина Григорьевна всегда с нетерпением ждала каждый номер «Народной Воли», она была для нее глотком свежего воздуха.

Вот изложил я свою боль – и мне хоть чуточку стало легче. Рад буду, если эти строки попадут на страницы газеты.

**Владимир БУЙКЕВИЧ,**
**инвалид 2-й группы,**
**кавалер ордена Трудового Красного Знамени.**

АСОБА

# Ігар КАЛІНЕЦ: «Я перажываў, што са мной у турме не было беларускіх дысідэнтаў»

*Выпраўляючыся ў Львоў, я пацікавіўся ва ўкраінскіх сяброў, з кім варта сустрэцца ў гэтым багатым на культурныя традыцыі і падзеі горадзе. І сябры ў адзін голас сказалі, што пабываць у Львове і не пабачыць Ігара Калінца – гэта як прыехаць у Рым і не пабачыць Папу Рымскага. І выклалі аргументы: Калінец – паэт ад Бога, легендарны ўкраінскі нацыяналіст, шматгадовы вязень савецкай турмы, намінант на Нобелеўскую прэмію… Мая ўява ўжо малявала гэткага сабе супермена, загартаванага сібірскімі маразамі. Але з-за вулічнага століка пры зацішнай кавярні мне насустрач падняўся ціхагалосы, павольны ў рухах мужчына з лагоднай усмешкай на твары. Раніцай таго самага дня я бачыў яго, маладога, на фота ў былой львоўскай турме, ператворанай у мемарыял.*

**– Ігар Міронавіч, я сёння са здзіўленнем даведаўся, што адзін з самых наведваных турыстычных аб'ектаў у Львове – колішняя турма НКВД. Як паведаміла мне экскурсаводка, нямала там бывае і беларусаў – відаць, таму, што падобнай мемарыяльнай турмы ў нас няма. Дык вось на сцяне ў той турме-музеі я пабачыў партрэты былых вязняў, у тым ліку і ваш. І тут яшчэ раз здзівіўся – вы сядзелі там у 1972 годзе. За што вас арыштоўвалі ў адносна лагодныя брэжнеўскія часы?**

– Для беларусаў тыя часы, можа, і былі лагодныя. Але не для ўкраінцаў. У 1972-м я быў арыштаваны і асуджаны на шэсць гадоў за антысаветчыну і самвыдат. А яшчэ – за салідарнасць з украінскімі патрыётамі, якія трапілі ў турмы раней. Мы з жонкай Ірынай (яе арыштавалі на паўгода раней) выступалі супраць навязанай Масквой русіфікацыі, распаўсюджвалі тэкст Івана Дзюбы «Інтэрнацыяналізм ці русіфікацыя?».

**– Ён, дарэчы, трапіў і ў Беларусь. У Мінску ў 1973 годзе КДБ выкрыў гэтак званы «Акадэмічны асяродак», удзельнікі якога прызнаваліся, што чыталі Дзюбу.**

– Але беларусаў тады не пасадзілі. Прызнацца, я нават перажываў, што са мной у турме не было беларускіх дысідэнтаў. Літоўцы і латышы былі, армяне і грузіны былі, а беларусаў – ніводнага.

**– Каб вы трохі суцешыліся – праз тую самую львоўскую турму, праўда, на 23 гады раней, прайшла беларуская паэтка Ларыса Геніюш. А вы, седзячы там, ведалі, што тварылася ў той турме ў 1939–1941 гадах?**

– Вельмі добра ведаў. Там у 1941-м загінуў мой дзядзька, студэнт Львоўскага ўніверсітэта, яго расстралялі саветы, як і тысячы іншых вязняў. Мама спрабавала знайсці цела брата, але не знайшла – там у падвалах ляжалі горы трупаў. Калі прыйшлі немцы, то вывезлі іх на львоўскія Янаўскія могілкі, там была выкапана вялікая брацкая магіла. А калі ў 1944 годзе вярнуліся «вызваліцелі», то panішчылі ўсе крыжы і зрабілі там сметнік. Ужо ў незалежнай Украіне мы аднавілі мемарыял. А калі ў турме ствараўся музей, мы з жонкай Ірынай як маглі дапамагалі, у тым ліку фінансава.

**– Сталінскі ГУЛаг апісаны даволі падрабязна. А што ўяўляў з сябе брэжнеўскі лагер для палітычных?**

– Умовы ўтрымання ў ім былі значна мякчэйшыя. Да таго ж у нашы часы ў лагерах яшчэ заставалася шмат украінскіх нацыяналістаў, пераважна бандэраўцаў, байцоў УПА. Яны бралі нас, маладзейшых, пад сваю апеку, вучылі, як трэба сябе паводзіць. Мы ведалі, за што сядзім і супраць чаго змагаемся. Мы адчувалі сябе як на барыкадах, на сутыкненні з варожым светам, які хацеў нас знішчыць. Як ні дзіўна, тое напружанне спрыяла творчасці – шмат хто з маіх землякоў якраз у лагеры пачаў пісаць. Скажам, сядзеў са мною Тарас Мельнічук з Прыкарпацця, ён потым стаў знакамітым паэтам, лаўрэатам Шаўчэнкаўскай прэміі. Чатыры гады са мной сядзеў літаратуразнавец і вялікі разумнік Іван Святлічны, ён быў маім першым чытачом і крытыкам. Так што, як бачыце, і ў лагеры ў нас было творчае асяроддзе.

**– Як вам удавалася ў тых умовах пісаць?**

– Уявіце сабе: вялізная камера на 50–70 чалавек, двух'ярусныя ложкі, шумна, як на кірмашы. А ты на другім паверсе абстрагуешся ад усяго і пішаш. Я за дзевяць гадоў лагера і высылкі напісаў дзевяць зборнікаў.

**– Дзе знаходзіўся ваш лагер?**

– На Урале, у Пермскай вобласці, я там правёў 6 гадоў. Жонка – у Мардовіі. Мы прасілі, каб нас памясцілі ў суседнія лагеры, тады сваякам было б зручна нас наведваць. Не дазволілі, спецыяльна, відаць, раскідалі па розных рэгіёнах. Праўда, потым на трохгадовую высылку мы паехалі ўжо разам.

**– Якім чынам вы перапраўлялі напісанае на волю?**

– Для нас у Пермскай вобласці аднавілі тры сталінскія канцлагеры. І паведамілі мясцоваму насельніцтву, маўляў, у вас будуць сядзець страшныя бандыты, забойцы, каб, барані Божа, не адбывалася ніякіх кантактаў. І нас сапраўды моцна баяліся, не падступіцца, не тое што на волю нешта перадаць. І мы прыдумалі такі спосаб. Пісалі дробным почыркам на малюсенькіх аркушыках, скручвалі іх і закручвалі ў цэлафан. Хто вызваляўся, глытаў штук дзесяць тых скрутачкаў… Такім чынам нашы тэксты траплялі ў Маскву, дзе былі дысідэнты, што кантактавалі з Захадам. Калі лагерная адміністрацыя разгадала наш спосаб, то пачалі вызваляць раптоўна, без папярэджання, каб не паспеў праглынуць скрутачкі. Але мы не здаваліся – на спатканнях іх праглыналі сваякі… Многія мае тэксты менавіта такім спосабам і трапілі на волю.

**– Вы з жонкай – за кратамі. З кім расла ваша маленькая дачка?**

– Звеніслава расла ў Львове з бабулямі і дзядулямі. Без нас яна скончыла школу. Ад нас атрымлівала толькі лісты – з двух дазволеных у месяц адзін пісаўся для дачкі. Аднойчы маці прыехала да мяне на спатканне і прывезла малую Звеніславу. А спатканне адмянілі, я толькі пачуў плач дачушкі… Цяжка было – не выказаць. Я абвясціў галадоўку, але спаткання так і не дамогся. Між іншым, у тым самым лагеры, у карцары, трымаючы галадоўку, у 1985 годзе памёр украінскі паэт Васіль Стус.

**– А як так сталася, што ў адной сям'і – двое антысаветчыкаў? Прычым жонка нават ішла паперадзе вас?**

– Ва ўкраінскім друку нават пісалі, што гэта жонка вывела мяне на барыкады. Відаць, таму, што ў Ірыны быў больш моцны характар, ды і язык у яе вастрэйшы. Але насамрэч мы ў антысавецкі супраціў прыйшлі паралельнымі шляхамі. Я з такой сям'і, дзе гаварылася пра Сталіна і крамлёўскіх правадыроў як пра катаў украінскага народа. І я з маленства гэта чуў. Я са школы ведаў пра крывавы тэрор і пра знішчаных НКВД сваякоў. Калі нас арыштавалі, для нас з жонкай гэта не было неспадзяванкай. Мы былі гатовыя да турмы. Найцяжэй мы пераносілі расстанне з дачкой. Помню, следчы ўвесь час паўтараў, што яе давядзецца здаць у прытулак...



**– Пасля вызвалення ў 1981-м вам было складана ўладкавацца ў жыцці?**

– У высылцы я працаваў качагарам, вельмі цяжкая праца… А вярнуўшыся ў Львоў, я пабачыў, што маім таварышам на волі, але пад падазрэннем і наглядам, жылося яшчэ горш. Так, у іх была свая катарга, і многія не вытрымалі, дэградавалі. Цябе выклікаюць на размовы ў КДБ, шантажыруюць, страх прабірае чалавека. Некаторым я так і сказаў: лепш бы ты сядзеў разам з намі. У лагеры – вольныя размовы палітвязняў, там страху не было. Ты за калючым дротам, ты вораг сістэмы, ты можаш гаварыць яе прадстаўнікам у вочы што думаеш. А ў Львове 1980-х мяне расчаравала грамадская атмасфера, людзі баяліся на вуліцы падысці. Мне ледзьледзь удалося ўладкавацца на працу ў абласны Фонд культуры.

**– Выйшаўшы на свабоду, вы доўгі час не пісалі і, па вашых жа словах, з'яўляліся імпрэсарыя паэта Калінца. Чаму вы так сурова з сабой абышліся?**

– Чаму сурова? У зняволенні я напісаў дзве галоўныя кнігі – «Абуджаная муза» і «Нявольнічая муза». Гэта так званыя «захаляўныя» вершы. А калі вызваліўся, то зразумеў: адзін неасцярожны крок – і зноў паеду да белых мядзведзяў. Бо ў нас ва Украіне тады пачалі арыштоўваць ізноў, таго ж Стуса другім разам узялі ў 1980-м. Рабілі розныя правакацыі з былымі вязнямі, каб пасадзіць ізноў. Я вырашыў сядзець ціха і рыхтаваць ужо напісанае да выдання. І такая магчымасць з'явілася ў канцы 1980-х. Сёння ў мяне часам пытаюцца: няўжо ў шуфляду не пісаў? Не пісаў. Па-першае, не хацеў вяртацца за краты, па-другое, я зразумеў, што збольшага вычарпаўся. Калі я быў у апазіцыі да ўлады ў 1960-я гады, калі я быў зняволены ў 1970-я, паэзія была маім супраціvам. Духоўнае напружанне спрыяла творчасці. Праца ў Фондзе культуры не спрыяла…

**– Што ў жыцці вы не прымаеце больш за ўсё?**

– Здрадніцтва. Я не каменны, часам занадта мяккі характарам – па мне відаць. Перад арыштам кадэбісты са мною доўга гандляваліся, схілялі да супрацоўніцтва, абяцалі выпусціць жонку. І я ледзь не зламаўся...

**– Калі СССР дыхаў на ладан, ваша жонка Ірына Калінец пайшла ў палітыку, стала дэпутатам Вярхоўнай Рады Украіны. Вы – не. Паэт не павінен быць палітыкам?**

– Украінскі паэт (як і беларускі) павінен быць змагаром. Мы, украінскія паэты, заўжды адчувалі на сабе адказнасць за мову, за народ, за краіну, мы не маглі займацца «мастацтвам дзеля мастацтва». Наша паэзія заўжды апярэджвала публіцыстыку, а паэты шмат у чым ішлі паперадзе палітыкаў. Так яно ішло з часоў Шаўчэнкі (прыгадайце яго «Запавет»), так яно працягваецца і сёння. Наша літаратура сёння на вайне, яна разам з арміяй стаіць на абароне ўкраінскай зямлі.

**– Згодны з вамі – літаральна сёння ў львоўскай кнігарні я набыў двухтомнік Барыса Гуменюка «Вершы з вайны», іх аўтар браў удзел у ваенных дзеях на Данбасе. Ваш прагноз – калі закончыцца тая вайна?**

– Вайна не спыніцца, пакуль Пуцін будзе імкнуцца даканаць Украіну. Міру ад яго нам чакаць не выпадае. Усё будзе залежаць ад таго, наколькі наша армія будзе здольная даваць адпор агрэсару. Вайна з Расіяй адкіне нас на шмат гадоў назад, але паддацца Маскве – гэта смерць Украіны. Аддамо Данбас – страцім усю левабярэжную Украіну, маскоўскія апетыты тады яшчэ больш праявяцца. Мы маем шмат прыхільнікаў у Еўропе і свеце, але «ўкраінская праблема», як выглядае, пачынае ім надакучаць. Яны могуць махнуць рукой і вярнуцца да палітычнага і эканамічнага супрацоўніцтва з Масквой. Асабліва калі пабачаць, што мы самі здаёмся.

**– Вы намалявалі вельмі змрочную перспектыву. Чаму Расія хоча даканаць Украіну?**

– Пуцінская Расія, на маю думку, ніколі не змірыцца з тым, што Украіна – незалежная дзяржава, якая сама вырашае свой лёс. У вачах Крамля Украіна па-ранейшаму прарасійская калонія. Што будзе пасля Пуціна – цяжка меркаваць.

**– Шмат каго абурае, як Расія прыўласнівае ўкраінскую гісторыю – праз кіно. Дастаткова згадаць фільм «Тарас Бульба», дзе казакі паміраюць з пафасным крыкам «за Расію».**

– Не толькі Расія так робіць. Вазьміце польскі фільм «Агнём і мячом» Ежы Гофмана. Але мяне абурае найперш не Гофман, а паводзіны майго земляка, львавяніна Багдана Ступкі, які зняўся ў ролі Багдана Хмяльніцкага. У фільме наша шляхта паказана проста жахліва – яна толькі п'е і гуляе. А нашы казакі там – як арда татарская! На месцы Ступкі я выставіў бы палякам умову: калі я гетман, то наўкол мяне павінны быць прыстойныя людзі. Не разумею, як можна ўдзельнічаць у карыкатурным паказе свайго народу? Хоць я яго ніколі не ідэалізаваў.

**– Чуў, што вы адмовіліся ад дзяржаўнага ордэна. Чаму?**

– Гэта было ў 2016 годзе. Я не прыняў ад той улады ордэн Яраслава Мудрага, бо лічыў, што яна працягвала русіфікацыю Украіны.

**– У Львове не засталося ніводнай расійскай грамадскай суполкі. Яны самаліквідаваліся, ці вы ім дапамаглі?**

– Дапамаглі, бо гэта былі выразна антыўкраінскія асяродкі. Распаўсюджвалі тут «русский мир», які ў львавян не карыстаецца папулярнасцю.

**– На вуліцах Львова часта сустракаюцца «мазаўскія» аўтобусы. А чаго яшчэ вы чакаеце ад беларусаў?**

– Беларусь мяне заўсёды вабіла. У канцы 1980-х гадоў у нашай хаце перабывала шмат беларускай моладзі, пераважна рэлігійнай. Мы давалі ёй прытулак, бо спадзяваліся, што яна зменіць Беларусь. Сёння нам бракуе вашай салідарнасці. Зразумейце: калі здасца Украіна, наступнай ахвярай Расіі будзе Беларусь. Мне балюча, калі нішчыцца беларуская мова, калі ствараюцца нейкія саюзы Беларусі з Масквой. Мяне мала парадавалі словы вашай Святланы Алексіевіч, якая сказала: «Я ганаруся, што ўва мне цячэ ўкраінская кроў». Я таксама паганарыўся б Алексіевіч, калі б яна пісала на беларускай мове.

**– Што вы параіце наведаць беларусам, якія прыязджаюць у Львоў? Ну, апроч турмы.**

– У нас выдатны Оперны тэатр. У «Крыїўку» (*рэстаран, стылізаваны пад зямлянку Украінскай паўстанцкай арміі.* – **Рэд.**) хадзіць не раю, у мяне самога нага не паднімаецца пераступіць яе парог. Гэта ж спекуляцыя на крывавай гісторыі – нашы паўстанцы не ласаваліся каўбасамі і не жлукцілі гарэлку! На жаль, тая кавярня стала дужа папулярным месцам для гасцей Львова.

**Міхась СКОБЛА.**

*Мінск–Львоў.*

ЗНАЙ НАШИХ!

# У белорусских школьников два серебра

*Исследовательские работы двух белорусских школьников получили серебряные медали на Международном конкурсе экологических проектов MOSTRATEC-2019, который проходил с 21 по 25 октября в бразильском городе Нову-Амбургу. Представители Беларуси принимали участие в конкурсе впервые – и сразу такой успех!*

Участие в мероприятии медалистам обеспечил Республиканский центр экологии и краеведения и Министерство образования Республики Беларусь при поддержке унитарного предприятия «Кока-Кола Бевриджиз Белоруссия».

Обладателями серебряных медалей стали учащиеся Республиканского центра экологии и краеведения, объединения по интересам «Ботаника. Прикладная микология» **Анастасия Рубникович** и **Владислав Андрейчук**. Анастасия выступала с проектом «Биополимерные материалы на основе мицелия ксилотрофных базидиомицетов». Владислав представил проект «Аэрофильная водоросль Trentepohlia Umbrina».

На стенде первого проекта были продемонстрированы два инновационных материала. Первый представлял собой брикет на основе древесных опилок, в котором мицелий грибов выступил в качестве своеобразного клея. В будущем он может послужить заменой пенопласта. Вторым стала экокожа, способная заменить натуральную кожу. Главным достоинством новых материалов является их экологичность: при утилизации они быстро разлагаются и не наносят ущерба окружающей среде.




Оба исследования проводились под руководством педагога дополнительного образования Республиканского центра экологии и краеведения и старшего преподавателя кафедры ботаники биофака БГУ **Олеси Шевелевой**. Над ними ребята работали более двух лет.

Международный конкурс экологических проектов «International Science and Technological Fair MOSTRATEC» проводится в Бразилии уже более 30 лет. В нынешнем году в нем приняли участие учащиеся средних школ и учреждений профессионально-технического и среднего специального образования из более чем 40 стран, которые заявили на конкурс 752 проекта, боровшихся между собой на звание лучших в 15 номинациях.



ПУЛЬС

## Мэром Кишинева стал кандидат от пророссийской партии

*Впервые за 16 лет пост мэра молдавской столицы займет социалист Ион Чебан.*

Согласно предварительным данным, обнародованным ЦИК, Ион Чебан заручился поддержкой 52,54 процента избирателей, а Андрей Нэстасе – лидер проевропейской правой партии DA (Demnitate si adevar – «Достоинство и правда»), входящей в избирательный блок ACUM («Сейчас»), – получил 47,46 процента голосов. В выборах мэра столицы Молдавии приняли участие 37,38 процента избирателей. Выступая перед журналистами, Ион Чебан заявил, что готов сотрудничать со своим бывшим оппонентом, и пообещал отдать блоку ACUM две из четырех должностей вице-мэра. Однако Нэстасе отказался поздравить своего конкурента с победой и сказал, что «результаты выборов вызывают большие вопросы». Он не исключил, что попробует оспорить результаты голосования.

## В Чернобыльской зоне установили туристический рекорд

Об этом сообщило украинское Государственное агентство по управлению зоной отчуждения, уточнив, что с января по ноябрь этого года в Чернобыльской зоне побывало 107,6 тысячи человек, что на 74,9 процента больше, чем за аналогичный период прошлого года. Это является рекордом для популярного туристического объекта.

При этом почти 80 процентов посетителей приехали из-за границы. Среди иностранных государств рекордсменами стали Великобритания (15.738 туристов), Польша (9378), Германия (7826), США (5580), Чехия (4063).

Как указали в Госагентстве, рост посещаемости начался весной, а к главным причинам отнесли выпуск кинокомпанией HBO мини-сериала «Чернобыль», внедрение системы «Электронный билет», создание дополнительной инфраструктуры и открытие новых маршрутов.

## Рекордные призовые

Первая ракетка мира австралийка Эшли Барти, накануне победившая на Итоговом турнире WTA в китайском Шэньчжэне, заработала в ходе соревнований 4,42 миллиона долларов. Эти призовые стали рекордными в истории тенниса – и среди мужчин, и среди женщин, сообщает официальный сайт WTA.

По сравнению с прошлым годом, когда Итоговый турнир WTA прошел в Сингапуре, призовой фонд соревнований вырос вдвое. Он увеличился с 7 млн долларов до 14 миллионов.

В финале WTA Finals Барти одолела прошлогоднюю победительницу турнира украинку Элину Свитолину.

Зінаіда БАНДАРЭНКА

# МОЙ ШЛЯХ ДА БЕЛАРУСІ

*Доўга думала, шукала, вагалася, з чаго пачаць мае ўспаміны?*
*Што ў маім доўгім творчым жыцці самае галоўнае, а што другаснае?*
*Вырашыла пачаць так.*

Сталіца Украінскай ССР Кіеў урачыста прымаў у сябе Першы ўсесаюзны фестываль тэлевізійных фільмаў. Гэта быў 1966 год.

На адкрыцці фестывалю кожны з 15 дыктараў саюзных рэспублік вітаўся на сваёй роднай мове. Дыктара Цэнтральнага тэлебачання Валянціну Міхайлаўну Лявонцьеву сустрэлі даволі стрымана. Большымі апладысментамі адарылі Тамару Чалую – дыктара ўкраінскага тэлебачання.

Мой жа выступ прынялі лепш за іншых, а калі на беларускай мове перадала ўкраінцам прывітанне ад сінявокай Беларусі, апладысменты ператварыліся ў авацыі. І я ўбачыла, як людзі апладзіравалі і падымаліся з месцаў.

Калі вярнуліся дадому, у прэсе было шмат станоўчых каментарыяў. Да мяне падыходзілі, віншавалі. Упершыню адчула зацікаўленасць да сябе, калі раптам задавалі пытанне, дзе я нарадзілася.

Кожны тыдзень у нас праходзіла лятучка, дзе збіраліся кіраўнікі аддзелаў, праграм і проста ўсе жадаючыя – нешта падобнае на «разбор палётаў». Калі дайшла гаворка да нашай украінскай паездкі, Вячаслаў Пятровіч Палескі, старшыня Рэспубліканскага камітэта па тэлебачанні і радыёвяшчанні, адразу ўзяў слова: «Напэўна, усе вы бачылі, як сустракалі нашу Зіну. Думаю, яна разумее, што так віталі не яе, а нашу рэспубліку». І я, канечне, гэта разумела. Больш за тое, там, у Кіеве, упершыню адчула такі вялікі гонар за Беларусь, за нашых людзей.

У 1972 годзе наш знакаміты пісьменнік Іван Паўлавіч Мележ атрымаў Ленінскую прэмію за першыя два раманы сваёй «Палескай хронікі» – «Людзі на балоце» і «Подых навальніцы». Калі я чытала ў эфіры з тэлетайпнай стужкі паведамленне пра гэта, павіншавала Івана Паўлавіча з узнагародай, а на наступны дзень нечакана сустрэла яго. Паўтарыла віншаванні. Ён падзякаваў і раптам спытаўся, адкуль я родам. З задавальненнем адказала, што з яго роднага Палесся.

На гэта задаволены Іван Паўлавіч заўважыў: «Вось я і чую, што гаворка ў вас надта шляхетная».

***Маёй матулі, паляшучцы Марыі Клімовіч прысвячаецца.***

## Так усё пачыналася

Мама мая, Марыя Піліпаўна Клімовіч, родам з Гомельшчыны. Нарадзілася яна ў 1902 годзе не ў самай беднай сям'і. Скажу так: гэта была сям'я сераднякоў. Паводле маміных расповедаў трошкі ўяўляю іх дом, хаця сама там ніколі не была. Між Рэчыцай і Лоевам была такая вёсачка – Лесуны, якая хавалася сярод палескіх лясоў. Гэта недалёка ад таго месца, дзе Сож упадае ў Дняпро. Мама мая з тых мясцін.

Сям'я была шматдзетная. Раней жа было як? Шанавалі Бога і баяліся граху. Колькі Бог даваў дзяцей, столькі нараджалі і гадавалі.

Маміна мама (мая бабуля) памерла вельмі рана. Зразумела, што доўга заставацца адзін дзед не мог. У дом прыйшла іншая жанчына, якая для маёй мамы стала мачахай.

Мама была самая малодшая дый ростам маленькая. У дзяцінстве перахварэла на залатуху, якая ў Беларусі тых часоў была вельмі распаўсюджаная. Хвароба моцна аслабіла яе здароўе. На хваравітую дзяўчынку не звярталі асаблівай увагі і вельмі здзівіліся, калі яна ператварылася ў прыгажуню.

Пра такіх звычайна кажуць – ладна скроеная прыродай. Мама была вельмі зграбнай і прывабнай дзяўчынай.

Для ўсіх гэта было нечаканкай. І для сваякоў, і для суседзяў. На яе пачалі заглядацца вясковыя жаніхі. Сярод іх – і сын мясцовага багацея Павел. Маме тады было толькі шаснаццаць гадоў. Ён быў старэйшы гадоў на пятнаццаць. Яна яго амаль не ведала, а таму, калі Павел пасватаўся, гэта стала нечаканасцю. Такі шлюб быў вельмі пажаданы для яе сям'і, дарэчны, бо на той момант раптоўна памерла і мачаха.


Мае тата і матуля Аляксандр Парфіравіч Бандарэнка, Марыя Піліпаўна Клімовіч, 1929 год.

Бацька адразу даў згоду сватам Паўла. Хутка ўзялі шлюб, справілі вяселле, што тады пазначалі толькі ў царкве.

Часы былі надзвычай неспакойныя – рэвалюцыі, перавароты, змена ўлады…

У глухое Палессе ўсе навіны даходзілі з вялікім спазненнем. Палешукі доўга не арыентаваліся, дзе і калі ў іх мясцовасці ўсталявалася савецкая ўлада, і наогул не ведалі, што гэта такое. Яно і зразумела: для селяніна самае галоўнае – своечасова пасеяць і сабраць ураджай, каб падрыхтавацца да зімы і перажыць яе бестурботна і сыта. А ўсё астатняе яго мала цікавіла.

У чужой сям'і маму сустрэлі даволі халаднавата. Як вядома, свякрухі да нявестак звычайна ставяцца насцярожана. І гэты выпадак не быў выключэннем. Словам, сярод новай радні маме нават не было да каго прытуліцца.

Яна амаль не ўспамінала той перыяд жыцця. Узгадвала толькі, што было вельмі цяжка. Мужа свайго яна не кахала і нават мала ведала. Але падпарадкавалася лёсу. Гэтак яны пражылі год ці два.

У той час шмат хто з вясковага люду імкнуўся да гарадскога жыцця і сыходзіў з вёскі. Мама дазналася, што ў Гомелі жывуць нейкія далёкія сваякі. І яна вырашыла збегчы з сям'і, якая так і не стала ёй роднай.

Аднаго разу на досвітку, калі ўсе пайшлі на працу (вярталіся толькі ўвечары), яна пешшу выправілася ў Гомель. Спачатку трэба было дабрацца да Лоева, а там – параходам да Гомеля. Ад Лесуноў да Лоева – 25 кіламетраў. Прабегла іх мама хутка (маладая ж была), а ў Гомелі знайшла прытулак у сваёй траюраднай цёткі Мяланні.

Яшчэ да рэвалюцыі Гомель стаў буйным чыгуначным вузлом, перакрыжаваннем розных дарог. Там былі дэпо і вагонарамонтны завод.

Павел не ведаў, куды збегла яго жонка, а яна хадзіла па дварах, зарабляла тым, што выконвала працу, якую давалі гаспадары. Працавала – і пакрысе ўцягвалася ў гарадское жыццё. Адукацыя ў яе была – чатыры класы царкоўнапрыходскай школы.

На адной вечарынцы мама пазнаёмілася з Сашам Бандарэнкам. Ладны, прыгожы. Толькі на год старэйшы. Ён быў з сям'і чыгуначніка, вучыўся ў рамеснай вучэльні. Чыгуначнікамі тады называлі ўсіх, хто працаваў на чыгунцы. І не важна, кім працаваў чалавек – у дэпо, токарам, слесарам, цесляром ці абходзіў чыгуначнае палатно.

На пачатку трыццатых гадоў у вышэйшых навучальных установах для рабочай і вясковай моладзі былі ўведзены спецыяльныя квоты. Яны распаўсюджваліся і на новага мамінага знаёмага. Аднойчы яго запрасіла начальства (ён пачаў ужо працаваць у дэпо) і пацікавілася, ці не хоча ён паехаць у Мінск вучыцца на доктара. Маўляў, ім даюць адно месца.

Саша параіўся з бацькамі. Яны на хлеб зараблялі фізічнай працай, а тут сыну прапаноўваюць стаць доктарам! Для простага чалавека гэта прафесія была чымсьці недасягальным. Безумоўна, Сашавы тата і мама з радасцю пагадзіліся.

А што мая мама? Яна разумела, што для Сашы такой магчымасці можа больш і не быць, і імкнулася не замінаць. Нічога яму не сказала, а сама доўга плакала. Тады яшчэ маме падумалася, што са сваім каханым


Брат Ігар. 1939 год.

яна развіваецца назаўсёды.

Аднак праз некаторы час тата прыслаў маме ліст, у якім напісаў, што сумуе па ёй, не можа жыць без яе, і яна, шчаслівая, паехала ў Мінск. Там яны і пабраліся шлюбам.

Для мамы пачалося новае жыццё: уладкавалася афіцыянткай у рабочай сталоўцы – трэба было працаваць, інакш не пражыць. Не ведаю, атрымлівалі тады студэнты нейкую стыпендыю ці не. Вядома толькі тое, што ў бацькоў Сашы магчымасці падтрымліваць яго фінансава не было.

У 1931 годзе (пасля шасці гадоў чакання гэта было Боскім падарункам) у іх нарадзіўся сын. Назвалі яго Ігарам, а ў 1939-м на свет з'явілася я. Сям'я наша жыла ў інтэрнаце медінстытута, які тады месціўся на Ленінградскай вуліцы амаль побач з чыгуначным вакзалам. Дарэчы, медінстытут тады ўваходзіў у склад БДУ і быў адным з яго факультэтаў.

Вучыўся тата вельмі добра.

Калі я нарадзілася, ён ужо скончыў ардынатуру, паступіў у аспірантуру, і працаваў у хірургічным аддзяленні ваеннага шпіталя, які сёння знаходзіцца на праспекце Машэрава.

Вайна заспела нас, калі тата быў на дзяжурстве ў шпіталі.

## Дарога ў вёску

Мінск бамбілі ўжо 22 чэрвеня 1941 года. Вакзал гарэў, мама раз-пораз з намі, дзецьмі, і суседзямі бегала ў бамбасховішча на вуліцы Карла Маркса. Тое, што мы бегалі менавіта туды, ужо значна пазней удакладніў наш вядомы паэт Мікола Аўрамчык. Дзесьці раней у інтэрв'ю я ўзгадвала бамбасховішча, насып якога дагэтуль узвышаецца ў Ленінградскім (зараз Міхайлаўскім) скверыку. А Мікола Якаўлевіч мне патэлефанаваў і выправіў тую гістарычную памылку. Аказалася, што, як рэдактар газеты «Чырвоная змена», ён публікаваў матэрыялы пра акупаваны Мінск і дакладна ведаў: бамбасховішча ў Ленінградскім скверыку пабудавалі для сябе немцы перад самым сыходам з горада.

Увечары 24 чэрвеня са шпіталя прыбегла ўся ў слязах медсястра Марыя Ісакаўна і сказала: «Трымайся, Марыя, твой Саша загінуў. У аперацыйную трапіла бомба. У шпіталі ідзе эвакуацыя, і фашысты вось-вось уварвуцца ў горад. Нам трэба хутчэй уцякаць».

Са слязьмі мама адразу пачала збірацца ў дарогу.

З сабой узяла як мага больш рознай вопраткі – разумела, што давядзецца мяняць яе на ежу. Прымацавала Ігару за плечы торбачку, узяла мяне на рукі, і мы разам


Мне адзін годзік. 1940 год.

з той жанчынай пачалі выбірацца з горада, які ўжо гарэў, у напрамку Бабруйска. Ішлі пераважна начамі. Удзень дарогу бамбілі фашысты, абстрэльвалі з самалётаў, бо па ёй адступалі нашы войскі, рухаліся бежанцы.

Дарогі былі перагружаны. Мы ішлі па начах, а ўдзень хаваліся ў хмызняку. Часам хтосьці падсаджваў нас на грузавік ці падвозіў на кані. Гэтак мы дабраліся да вакзала Бабруйска. Марыя Ісакаўна засталася ў сваякоў, а мама паспрабавала сесці на цягнік і даехаць да Масквы. У сталіцы жыў з сям'ёй родны брат таты Васіль, і мама спадзявалася на яго дапамогу. Але на вакзале ёй сказалі, што цягнікі да Масквы не даходзяць, за 150–200 кіламетраў пасажыраў высаджваюць і вяртаюць назад. Масква людзей не прымала.

Тады матуля вырашыла рухацца ў родныя мясціны, на Гомельшчыну. І мы пайшлі далей па ваенных дарогах. Ногі ў мамы і Ігара апухлі. Калі мы дабраліся да Гомеля, то там было адносна ціха, нашы зеніткі адганялі фашысцкія самалёты. Працавалі нават райкамы, пошта. Часовы прытулак знайшлі ў сястры таты Любы.

Як вядома, фашысты рваліся да Масквы. Іх націск стрымліваўся пад Магілёвам. А ў накірунку Гомеля іх яшчэ не было.

У час нашага доўгага шляху ў Ігара пачаліся праблемы са страўнікам. Больш за дзесяць сутак малы не мог схадзіць на двор. У дарозе ніхто не мог дапамагчы. А ў ваенным гарадку «Прудок» непадалёку ад дома цёткі Любы знаходзілася ваенная часць. Мама звярнулася па дапамогу да дактароў шпіталя, расказала пра мужа – і Ігара пакінулі там. Праз суткі маме сказалі: «Жанчына, яшчэ некалькі гадзін, і вы страцілі б сына…» Мама плакала і кідалася цалаваць дактарам рукі.

У тыя доўгія гады акупацыі яна не магла змірыцца, што яе Сашы няма. Значна пазней мы даведаліся, што падчас авіяналёту тата сапраўды разам з іншымі хірургамі знаходзіўся ў аперацыйнай. Менавіта ў рог гэтага будынка якраз і трапіла бомба. Няцяжка ўявіць, што там рабілася: грукат, пыл, крыкі, стогны. Высвятляць, хто ўцалеў, а хто загінуў, часу не было. Шмат было параненых. Налёты ішлі бясконца. І пачалася эвакуацыя шпіталя.

Калі ўжо стала тэледыктаркай, мне давялося весці імпрэзу, прымеркаваную да 200-годдзя Галоўнага клінічнага шпіталя Узброеных сіл БССР у Акруговым доме афіцэраў. Калі рыхтавалася да правядзення юбілейнай даты, папрасіла даць мне кароткую гістарычную даведку пра Вайсковы шпіталь, і пералік людзей, пра якіх трэба было расказаць асобна.

З рэкламнага буклета Ваеннага шпіталя чытаю: «22 чэрвеня 1941 года шпіталь быў узняты па трывозе, у 12.00 пачалі паступаць першыя параненыя. 24 чэрвеня ў 11 гадзін раніцы прамым пападаннем бомбы была ўшчэнт разбурана аперацыйная. Раненых эвакуіравалі ў лазарэт 100-й стралковай дывізіі». Мой тата ў той момант быў якраз у аперацыйнай. Калі я распавядала пра ўсё гэта на сцэне, як быццам бы разам з татам перажыла тую бяду.

Мама разумела, што надалей заставацца ў Гомелі нам нельга, бо ў лазарэце, дзе лячылі Ігара, даведалася, што ўсіх ваенных эвакуіруюць.

Мама напісала свайму роднаму брату Міколу ў вёску Уборак на Лоеўшчыну, і літаральна праз тыдзень ён прыехаў на кані і забраў нас. Па сутнасці, мама выратавала нам з Ігарам жыццё.

Ад Гомеля да Уборка – больш як семдзесят кіламетраў. Сюды да сваёй другой жонкі і перабраўся жыць дзядзька Мікола. Тут пабудаваў добры, досыць прасторны дом. Памятаю яго вялікі падворак з двума хлявамі-кароўнікамі, свінарнікам, у якіх было шмат хатняй жывёлы.

Немцы, калі наязджалі ў вёску, заўсёды спыняліся менавіта ў дзядзькі. Асобнага гарнізона ў вёсцы не было. Бліжэйшы месціўся ў Холмечы.

Запомнілася, як мы з дачкой дзядзькі Ганначкай ляжалі на печы і назіралі, як яго жонка цётка Соня падае абед немцам. Адзін з іх падняўся і даў нам шакаладку. Той смак з 1943 года памятаецца мне па сёння.

Жыхары Уборка сустрэлі нас даволі прыязна, хаця з братам Ігарам адразу, як мы прыехалі, пачаліся непрыемнасці. Тата ў нас быў смуглявы, чорнавалосы. Бацькі яго з вёскі Бабовічы, што пад Гомелем у чарнігаўскім напрамку; палова жыхароў вёскі мелі прозвішча Бандарэнка. Ігар надта быў падобны да бацькі – таксама смуглявы і чорнавалосы. Вельмі прыгожы хлопчык. З гэтай нагоды ў вёсцы было шмат плётак. Казалі, што муж Марыі быў камуністам і, мусіць, яўрэем, і некаторыя вяскоўцы называлі Ігара «жыдком». Калі немцы ці паліцаі заходзілі ў вёску, то брата адразу хавалі далей ад іх вачэй. Мне ж, блакітнавокай і светлавалосай, нібыта нічога не пагражала. Але мы жылі ў заўсёдным страху.

У нашай вёсцы немцы прызначылі старасту. Канечне ж, ён пра Ігара ўсё добра ведаў і папярэджваў пра прыезд паліцаяў.

Першыя гады вайны я не памятаю, а вось час, бліжэйшы да вызвалення, прыгадваецца добра. Мне было ўжо амаль пяць гадкоў. Асабліва запомнілася ўборкаўская царква. Яна была вельмі прыгожая. Мне здавалася вялікай, прасторнай, велічнай. Яе пазалочаныя купалы былі бачны адусюль. Бліжэй да канца акупацыі прыбегла неяк да мамы жанчына, якая працавала прыбіральшчыцай у камендатуры, і ўсхвалявана сказала, што ў вёску неўзабаве могуць прыехаць карнікі, а яна на свае вочы бачыла ў спісе на знішчэнне прозвішча нашай сям'і як сям'і камуніста і яўрэя.

Перад яе прыходам мы чулі стralяніну. «Гэта паліцаі», – патлумачыла жанчына. На нашым падворку ў той час гуляла дзяўчынка Тамара Курзіна. Жанчына сказала, што ўсіх Курзіных ужо забралі – нібыта хтосьці ў іх быў у партызанах. Тамара, як пачула гэта, рванула з двара. Мама схапіла яе, нікуды не пусціла, схавала ў нас. Так яна выратавала дзяўчынцы жыццё. Бо потым мы даведаліся, што сям'ю Курзіных зачынілі ў хляве і спалілі.

Дзядзька Мікола, пачуўшы вестку, што мы ў спісе на знішчэнне, вывеў з хлява дзвюх кароў, загадаў маме збірацца ды ісці ў Бурыцкія лясы – самую глухую мясціну паблізу. Тамару Курзіну, а таксама двух сыноў дзядзькі Міколы мы ўзялі з сабой. Сам жа ён з жонкай і дачушкай Ганначкай рушыў у кірунку балота: «Можа, хто і выратуецца», – сказаў на развітанне, прывязаўшы да рукі другую карову.

Па дарозе, памятаю, калі мама несла мяне на руках праз балота, я парэзала ручку аб асаку. Яна была ўся ў крыві, што моцна ўсіх перапужала. Той шрам застаўся ў мяне дагэтуль як напамін пра вайну…

У лесе, пад векавымі соснамі, мы пражылі да глыбокай восені. Зрэшты, якое там жыццё? Пакутавалі. Спалі ў так званым курані – будане з адтулінай уверсе замест коміна. Навокал месціліся ўцекачы з суседніх вёсак. Шмат людзей. Курані ставілі купкамі ў звыклым парадку, нібы паўтараючы мапу вёсак: Пракісель, Ваўкашанка, Уборак, Ястрабка, Грамыкі…

Дарэчы, карову-карміцельку мама прывязвала на ноч да нагі. Каб тая не адышла, бо партызаны маглі пусціць яе на харчы. Яны часта наведваліся – як з суседняй Украіны, так і свае. Больш за іншых бязлітаснасцю вызначаліся партызаны знакамітай украінскай брыгады Каўпака. Іх баяліся як агню. Забіралі яны літаральна ўсё, што можна есці.

Мясцовыя былі больш чалавечныя. Аднойчы яны прыйшлі і да нашага кураня. Маці Хрыстом Богам маліла, каб не забіралі карову. Калі ўбачылі малых дзяцей, злітаваліся. А ў каго з уцекачоў мелася па дзве каровы, дык і размовы не было: адну абавязкова рэквізавалі.

Маленькую Тамару ў хуткім часе забраў да сябе яе сваяк, намеснік камандзіра партызанскага атрада.

Фронт набліжаўся, кананада чулася ўсё гучней і гучней. І вось аднойчы сяджу ў курані і бачу – бяжыць мама, ад радасці задыхаецца.

– Дачушка, – крычыць, – нашы прыйшлі!

Я думаю: «Якія нашы? Мо дзядзечка Мікола з цёткай Соняй?»

А яна: «Чырвонаармейцы ў лесе. Глядзі, чым пачаставалі», – і дастае з-пад ватоўкі бохан бялюткага хлеба. На сваёй памяці я такога ў вочы не бачыла.

Мама наліла мне малака (карова нас тады выратавала ад галоднай смерці) ды адламала ці не чвэрць бохана. Божа, якая гэта была смаката! Тады ж упершыню адчула і смак солі. Бо там, у лесе, усё елі несалёнае: бульбяное варыва з шалупіння з малачком і тое, што маглі сабраць у лесе, – ягады, грыбы...

Тым часам маці тлумачыць: дачушка, Уборак ужо вызвалены; будзем вяртацца ў вёску. З нашай кароўкай да вёскі мы шкандыбалі, напэўна, цэлы дзень, а як падышлі – анямелі. Ацалела толькі некалькі хат, астатнія – папялішчы. Памятаю, што па дарозе дамоў ляжала шмат забітых. Мама прыкрывала мне далонёй вочы і загадвала глядзець «толькі пад ногі».

А ўшчэнт разбітая прыгожая царква стаіць у мяне перад вачыма і сёння. Распавядалі, што, калі ішоў бой за вёску Уборак, на званіцы засеў фашысцкі кулямётчык. Метка касіў. І наша артылерыя знішчыла не толькі кулямётчыка…

Праз некаторы час завітаў у вёску бацюшка ды пахрысціў усіх уборкаўскіх дзяцей, і нас з Ігарам у тым ліку, на прызбе адной з ацалелых хат. Добра памятаю як стаяла ў чарзе да бацюшкі. Крыжыкі ўсім надзявалі простыя, саматробныя, на зрэбнай нітачцы. З радасцю яго насіла, але потым, не памятаю ўжо калі, згубіла, пра што дагэтуль вельмі шкадую...

Людзям трэба было перажыць зіму, і вяскоўцы пачалі капаць зямлянкі. Каля нашай зладзіў калодзеж дзядзька Мікола. У яго была цудоўная сям'я. Цётка Соня заўсёды імкнулася даць мне большы кавалачак хлеба. Хаця побач знаходзілася яе родная дачушка. Так яна шкадавала мяне, сірату. Дзеці ўсё заўважаюць. А дзядзька Мікола вельмі любіў нас з мамай, а мы яго. Потым ён часта прыязджаў да нас у Гомель, а я ездзіла да яго на летнія вакацыі.

Пазней гаспадарлівы дзядзька Мікола паставіў хатку. Праўда, ужо не такую прасторную, як была раней. Мама, цёця Соня і дзядзька Мікола шмат працавалі: трэба было ўладкоўваць не толькі сваё жыццё, але і калгаснае. Памятаю, як цёця Соня прынесла пад спадніцай кармавы салодкі бурак з калгаснага поля. Людзі галадалі, але яшчэ ішла вайна, і калгаснікаў саджалі ў турму за прынесеную бульбіну ці бурак.

Зразумела, перажылі вайну не ўсе нашы аднавяскоўцы. З сям'і Курзіных засталася жывая толькі выратаваная маёй мамай Тамара, усіх яе родных фашысты забілі. Сёння на вясковай плошчы стаіць помнік загінуўшай сям'і Курзіных. Але толькі адной гэтай сям'і. А колькі іншых сваіх жыхароў недалічылася вёска Уборак!.. Даволі хутка ў адной з ацалелых хат пачала працаваць школа. Ігар там скончыў першыя класы. Пасля вайны засталося шмат зброі: куляў, гранат, снарадаў… Дзеці знаходзілі іх і даволі часта гінулі ад выбухаў. Ігар рос вельмі няўрымслівым і гарэзлівым, таму мама жыла ў вечным напружанні і хваляванні.

Памятаю, ля нашай вёскі дзеці кінулі ў вогнішча нешта выбуховае – загінулі адразу чацвёра. Мама бегла праз усю вёску. На возе ляжалі крывавыя парэшткі хлопчыкаў. На шчасце, Ігара сярод іх не было...

## Вестка пра тату

Аднойчы да нас завітала нейкая жанчына. Папрасіла вады. Мама прапанавала прысесці і пачала расповед пра мужа, пра сваё гаротнае жыццё. Тая ўважліва слухала, разглядала маму, а потым папрасіла яе руку. І раптам выдыхнула: «А муж твой, Марыя, жывы! Толькі побач з ім іншая жанчына».

І пачала мама пісаць лісты ўсім сваякам. І ў Гомель, і ў Маскву – роднаму брату таты. І тут раптам прыходзіць ліст ад самога таты. Ён паведамляў, што знаходзіцца ў Германіі.

А здарылася наступнае. Авіябомба, якая трапіла ў рог аперацыйнай, не ўзарвалася, а толькі нарабіла шмат шуму і пылу, і ўсе засталіся жывыя. Калі шпіталь эвакуіравалі, тата паспеў забегчы дадому, аднак убачыў замест нашага дома вялізную яміну. Вядома ж, першая думка: усе загінулі... Потым ён служыў хірургам у медсанбаце да апошняга дня вайны, дайшоў да Берліна і атрымаў узнагароды.

Неўзабаве замест лістоў пачалі прыходзіць пасылкі. Праўда, ад голаду яны нас не ратавалі, бо тата дасылаў у скрынках дзіцячыя лялькі ды розную бялізну. Але цацкі выклікалі вялікую цікавасць у вяскоўцаў, бо яны нагадвалі некаторых «уборкаўцаў»: «Глядзіце, гэта ж Яўменіха, а гэта Васька Швец…»

Кавалачкі трафейных абрусаў, якія тата дасылаў з Германіі, у мяне захаваліся і па сёння.

Праз некаторы час мама наважылася пераехаць у Гомель, дзе жылі сваякі таты. Пэўны час мы жылі ў яго стрыечнай сястры, цёці Любы. У яе застаўся вялікі, не разбураны вайной дом на беразе Сожа. Ігар зноў пайшоў у школу. Мы даведаліся, што на ўскрайку Гомеля пачаў працаваць шпіталь для хворых на сухоты. Пасля вайны было шмат людзей з гэтай хваробай. Праз некаторы час да нас дайшлі чуткі, што галоўным урачом шпіталя прызначаны Аляксандр Парфіравіч Бандарэнка. Гэта быў мой тата.

*(Працяг у наступным нумары.)*

Народная Воля http://www.nv-online.info
5 ЛІСТАПАДА 2019 г.

ЗАКУЛІССЕ

## У Віцебску Станіславу Шушкевічу падарылі футбольную майку з «Пагоняй»

*У мінулую нядзелю першы кіраўнік незалежнай Беларусі сустракаўся з віцябчанамі ў арт-пабе «Торвальд».*

Імпрэзу арганізавала грамадская арганізацыя «Альтэрнатыва» ў межах кампаніі «За незалежную Беларусь». Зала была запоўнена пад завязку, экс-старшыня Вярхоўнага Савета амаль дзве гадзіны адказваў на пытанні прысутных.

Пытанні тычыліся палітычнай сітуацыі ў краіне, будучых прэзідэнцкіх выбараў, Станіслаў Станіслававіч расказваў пра гады станаўлення дзяржавы і выказваў стаўленне да будаўніцтва Беларускай АЭС…

*«Амаль дзве гадзіны Станіслаў Шушкевіч у сваe 84 гады практычна адстаяў на нагах»,* – распавёў футбольны агент з Віцебска **Валерый ІСАЕЎ**, які прысутнічаў на гэтай сустрэчы.



– *Прыстойны, цікавы, іранічны. І хачу сказаць, што наша футбольная каманда «Зграя» падпісала сабе новага нападаючага. Экіпіравалі пры падпісанні».*

Акурат у зале Валерый Ісаеў падарыў Станіславу Шушкевічу футбольную майку.

*«Станіславу Станіслававічу вельмі спадабалася, што на майцы герб «Пагоня», казаў, што апране яе падчас паездкі ў Паўднёвую Карэю,* – дадае футбольны агент. – *І абяцаў трымаць сябе ў добрай спартыўнай форме…»*

Алесь СВЯТЛАНІЧ.

СЛЫШАЛИ?

## К нам едет оперная звезда Мария Гулегина

В общем, надо признать, что Минск в последнее время не обделен звездами, оперными в том числе. Вот последняя новость: через два месяца в Большом театре выступит одна из величайших певиц Мария Гулегина – прима «Метрополитен Опера», «Ла Скала», «Ковент-Гарден», Театра Лисео, Венской оперы и других крупнейших оперных театров Европы, Америки и Азии. Приятно, что ее профессиональная карьера когда-то начиналась в Большом театре Беларуси, – мы, зрители, сразу были покорены ее удивительным сопрано. Мы полюбили Марию Гулегину!

Но и Европа не дремала. Очень скоро певице предложили контракт в «Ла Скала», она уехала из Беларуси. Иногда она вспоминает, что из нашего театра ее «выжили». Что ж, эпоха девяностых была непростая, переломная и в обществе, и в искусстве: наверное, было-таки противостояние звезды с коллективом Большого. Она шла вперед слишком быстро, была молода, талантлива и просто красива… Но певицу у нас никогда не забывали, следили за ее блестящей карьерой на Западе. После дебюта в «Ла Скала» в опере Верди «Тоска» Мария Гулегина была признана «сопрано с вердиевской музыкой в крови». Чтобы иностранка заслужила от итальянцев такой эпитет, нужно было действительно стать «вокальным чудом» – еще одна характеристика из прессы того времени. Да и по сию пору, как пишут критики, ей нет равных в исполнении ролей «силового» драматического сопрано, особенно из репертуара Верди и Пуччини. А исполнение главных ролей в операх «Макбет», «Норма», «Тоска», «Аида» и многих других доставляет почти леденящее кровь удовольствие.



Мария Гулегина выступает с лучшими голосами мира: ее партнерами по сцене были Лучано Паваротти и Пласидо Доминго, Лео Нуччи и Ренато Брузон, Хосе Кура и Сэмюэль Рейми. Она участвовала в постановках под руководством маэстро Риккардо Мути и Джанандреа Гаваццени, Джеймса Ливайна и Клаудио Аббадо, Валерия Гергиева и Фабио Луизи. Безупречно отшлифованное мастерство Гулегиной до сих пор держит ее имя в двадцатке лучших оперных певиц мира.

Елена МОЛОЧКО.

НОВЫ ФАРМАТ

## «Дзве душы» на ўвесь экран

Гэты праект прымеркаваны да 100-годдзя Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы: прамая трансляцыя на экран знакавых спектакляў тэатра. Першая – спектакль «Радзіва Прудок» – атрымалася ў верасні. А 8 лістапада на экране будзе паказаны спектакль «Дзве душы».

Бясплатная трансляцыя, якую наладзіла кампанія А1, будзе даступна з любой прылады і ў сетцы любога апаратара пасля аўтарызацыі ў мабільным прыкладанні VOKA ці на сайце voka.tv па нумары тэлефона. Шматкамерная мастацкая здымка ў высокай якасці дазволіць кожнаму гледачу максімальна паглыбіцца ў атмасферу тэатральнай залы і ўбачыць усё, што адбываецца на сцэне, з розных ракурсаў. Пачатак паказу ў прамым эфіры, як і ў глядзельнай зале, – у 19.00.



Спектакль «Дзве душы» пастаўлены паводле аднайменнай аповесці Максіма Гарэцкага. Аповесць напісана ў 1919 годзе пасля Першай сусветнай вайны, а ў 2016 годзе гэта філасофская проза ўпершыню была вынесена на тэатральную сцэну рэжысёрам Мікалаем Пінігіным. Аўтары інсцэніроўкі – Максім Клімковіч і Уладзіслаў Ахроменка – адабралі некалькі фрагментаў з аповесці і дапоўнілі ўрыўкамі з іншых тэкстаў Гарэцкага, каб за лёсамі галоўных герояў можна было прасачыць у храналагічным парадку з 1890-х па 1930-я гады. На сцэне з'яўляецца і персанаж самога пісьменніка ў арыштанцкай робе (Максім Гарэцкі быў асуджаны на пяць гадоў высылкі і расстраляны ў 1938 годзе).

«Дзве душы» – адзін з самых масавых спектакляў у купалаўцаў. У ім занята амаль уся трупа, студэнты Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, дзеці з тэатральных студый – агулам каля 40 чалавек. У ролі падмененых братоў Ігната Абдзіраловіча і Васіля – Раман Падаляка і Іван Кушнярук. У вобразе Максіма Гарэцкага – Аляксандр Паўлаў.

Вікторыя ДРОЗД.

ПАДЗЕЯ

## Чытанні ў гонар ксяндза Завальнюка



У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі прайшлі навуковыя чытанні, прысвечаныя 70-годдзю з дня нараджэння і 30-годдзю беларусазнаўчай дзейнасці ксяндза-каноніка **Уладзіслава Завальнюка**. Суарганізатарамі мерапрыемства выступілі грамадскае аб'яднанне «Міжнародная асацыяцыя беларусістаў», Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа НАНБ і Нацыянальная бібліятэка Беларусі. Слынная святара-беларусаведа, настаяцеля Мінскага касцёла Святога Сымона і Святой Алены віталі шматлікія прадстаўнікі навуковай супольнасці краіны, калегі і сябры, выкладчыкі беларускіх вышэйшых навучальных устаноў.

Менавіта ўвосень ужо далёкага цяпер 1989 года кардынал **Казімір Свёнтак** блаславіў маладога святара Уладзіслава Завальнюка на працу па беларусізацыі касцельнага жыцця. Ужо тады кіраўнік Касцёла ў Беларусі прадбачыў запатрабаванасць беларускай мовы ў канфесійнай сферы, адначасова ўбачыў місіянерскія памкненні і арганізатарскія навыкі новапрысвячанага прабашча. І кардынал не памыліўся. На працягу трох дзесяцігоддзяў гадоў асабіста і ў суаўтарстве з іншымі навукоўцамі-філолагамі ксёндз Завальнюк падрыхтаваў і апублікаваў каля 50 асобных выданняў канфесійных тэкстаў на беларускай мове. Многія яго працы вытрымалі па тры-пяць выданняў, асобныя з іх друкаваліся ў Польшчы. У апошнія гады Уладзіслаў Завальнюк у суаўтарстве са мной, навукоўцам, і настаўнікам-беларусазнаўцам Валянцінай Раманцэвіч выдаў «Энцыклапедычны слоўнік рэлігійнай лексікі беларускай мовы», «Слоўнік сучаснай беларускай мовы», «Псалтыр» і іншыя. Як і яго калегі і аднадумцы ксёндз-канонік выступае за выкарыстанне ў канфесійнай літаратуры і ў хрысціянскім набажэнстве адзінай літаратурнай мовы паводле Закона РБ «Аб правілах беларускай арфаграфіі і пунктуацыі» 2008 года.



З дакладамі і навуковымі паведамленнямі па тэматыцы чытанняў выступілі першы намеснік дырэктара Цэнтра беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі акадэмік **Аляксандр Лукашанец**, дырэктар Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа **Ігар Капылоў**, ксёндз-канонік доктар багаслоўя **Ян Крэміс**, ксёндз-канонік **Францішак Рудзь**, загадчык кафедры гісторыі беларускай літаратуры БДУ прафесар **Алесь Бельскі**, прафесар гэтай жа кафедры **Жанна Некрашэвіч-Кароткая** і дацэнт **Ірына Багдановіч**, загадчык кафедры беларускай і рускай моў БНТУ дацэнт **Ірына Будзько**, настаўнік-метадыст **Валянціна Раманцэвіч** і іншыя.

Выступоўцы адзначалі, што праведзеныя навуковыя чытанні «Мова – рэлігія – культура» дазволілі ацаніць намаганні Ул.Завальнюка і яго калег па ўвядзенні і захаванні ў касцельным жыцці сучаснай беларускай літаратурнай мовы, вызначыць далейшыя напрамкі моўна-культуралагічнай дзейнасці ў бліжэйшай перспектыве.

Па выніках чытанняў будзе падрыхтаваны зборнік навуковых артыкулаў.

**Мікалай ПРЫГОДЗІЧ,**
**доктар філалагічных навук, прафесар, загадчык кафедры беларускага мовазнаўства Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.**

АВТОЭКСПЕРТИЗА

## Готовим машину к зиме

Зимний период – непростое время для автолюбителей. Чтобы в холода не было проблем с машиной, нужно встретить зиму во всеоружии!

Автоэксперты рекомендуют перед началом зимнего сезона проводить диагностику автомобиля в сервисе. Однако следуют этому полезному совету единицы. Не хотите проверить свою машину от и до? Хотя бы выполните обязательный минимум!

### Переобулся сам – переобуй друга!

Мы не ходим зимой в летних сандалиях, но почему-то позволяем себе ездить в холода и морозы на летних шинах. Где логика? Доказано: летние шины не подходят для езды по снегу и льду. Это попросту опасно для жизни водителя и пассажиров! Резина дубеет и теряет сцепление с дорогой. Уже при температуре 8–10 градусов стоит задуматься о том, чтобы поменять летние шины на зимние. Для нашей страны идеальна резина с шипами. Всесезонную «липучку» как вариант лучше не рассматривать. На старой резине должно присутствовать больше половины шипов, а глубина протектора составлять не меньше четырех миллиметров. У вас не так? Покупайте новые колеса!

### Без чего машина не поедет

Главная головная боль большинства автомобилистов зимой – аккумулятор. Если он плохой или старый, уже при -10…-12ºС автомобиль может не завестись. Так что перед началом зимнего сезона имеет смысл проверить аккумулятор, при необходимости подзарядить его или купить новый. Еще один важный показатель – плотность электролитов. Обязательно спросите об этом в автосервисе.

### Тормозить будет?

Тормоза отвечают за безопасность, а зимой – особенно! В это время года тормозной путь у машины увеличивается. Если тормозные колодки старые, изношенные, автомобиль остановится далеко не сразу после того, как вы нажмете на педаль тормоза. Машина тормозит не сразу? При торможении слышатся скрип и скрежет? Значит, вам надо срочно менять тормозные колодки! Кстати, тормозные диски также следует при этом проверить. Как минимум они не должны быть грязными и ржавыми.

### Чтобы стекло было чистым

Хорошая видимость – залог безопасности на дороге. Зимой с этим могут быть проблемы, особенно если стеклоочистители (они же «дворники») старые. Менять их следует каждый год, а то и чаще. Все зависит от условий эксплуатации. В основе стеклоочистителей – резина, которая быстро изнашивается и портится.

Не забудьте также заполнить бачок стеклоомывателя незамерзающей жидкостью. Перед тем как ее залить, распылите на стекло остатки летнего омывателя.

Зимой бензобак должен быть всегда заполнен минимум на треть.

Осторожнее с мытьем машины зимой. Автомобили тяжело переносят перепады температуры. Кстати, зимой чаще мойте машину под капотом, чтобы снизу не копились «сосули».

Помните: зима для каждого водителя – это экзамен на профпригодность!

**Николай ГЛЕБ,**
**постоянный читатель газеты «Народная Воля».**
*Ляховичский район.*

НА ЗДОРОВЬЕ!

## Сколько хлеба нужно есть

В любой диете первым попадает под удар хлеб. Его не рекомендуют есть ни в каком виде, не делая скидку даже на то, что сейчас популярны цельнозерновые сорта, которые вообще-то полезны для здоровья. Убедить диетологов сложно, но изучить вопрос с точки зрения науки не помешает. Хлеб – незаменимая часть полноценного меню, если выбрать правильный вид и не злоупотреблять сдобными булками.

### Больше энергии

Хлеб – это действительно углеводы, которых так боятся спортсмены и худеющие девушки. Но углеводы – это не что-то страшное, и в этом уже убедились многие исследователи и диетологи. Правильные углеводы, которые в изобилии содержатся, например, в цельнозерновом хлебе, способны обеспечить нас энергией на целый день. Хитрость в том, что нужно исключить лишь белый хлеб: углеводы, содержащиеся в нем, быстро перерабатываются и приводят к резкому снижению сахара в крови. Хлеб из цельной пшеницы медленнее переваривается и оставляет сытым надолго.

### Больше здоровья

Потребление хлеба приносит немало пользы для здоровья. И это доказывают научные исследования. Содержащиеся в хлебе полезные вещества могут снизить риск возникновения сердечно-сосудистых заболеваний, диабета второго типа, гипертонии, рака, инсультов и ожирения. Диетологи рекомендуют съедать не менее трех кусков цельнозернового хлеба в день, чтобы сполна воспользоваться его преимуществами для здоровья и не нажить проблем с лишним весом.



### Больше жизни

Продолжительность жизни, по мнению исследователей Гарвардской школы общественного здравоохранения, связана с потреблением цельнозернового хлеба. В проведенном ими эксперименте приняли участие 100 тысяч человек. В результате потребления хлеба риск внезапной смерти снижается на 5%, а риск смерти от сердечно-сосудистых заболеваний – на 9%. Это не бог весть какие цифры, но согласитесь: если речь идет о жизни и смерти, даже они важны.

### Больше счастья

Согласно изданию Psychology Today, углеводы, содержащиеся в хлебобулочных изделиях, повышают уровень серотонина в мозге. А он, как известно, отвечает за наше хорошее настроение. Кроме того, если вы съедите кусок хлеба на завтрак, в течение дня меньше вероятность, что поддадитесь соблазну съесть что-то по-настоящему вредное вроде шоколадки или мороженого.

### Меньше вес

Цельнозерновой хлеб полон клетчатки. А она, как известно, необходимый элемент любого процесса снижения веса. Во-первых, клетчатка влияет на наше состояние сытости. Статистически она влияет на количество потребленных в течение дня калорий. Во-вторых, она не допустит резкого снижения сахара в крови, а значит, вы будете чувствовать себя бодрым гораздо дольше.

### Луше работа кишечника

Клетчатка также незаменимый элемент в процессе переваривания пищи и качественном очищения организма. Чтобы она действовала на ЖКТ так, как нужно, необходимо потреблять не менее 28 граммов клетчатки в день. Удивительно, но 92% людей этого не делают. А для этого всего-то нужно съедать все те же три куска цельнозернового хлеба. Хорошо, если в вашем рационе будут еще и овощи, однако без хлеба тоже обойтись нельзя.

### Более здоровые кожа и волосы

Обычно, если речь идет о здоровых коже и волосах, о хлебе вспоминают в последнюю очередь. Однако в нем столько витаминов и минералов, что этот продукт способен оказать очевидный эффект на состояние вашей внешности. Конечно, речь здесь идет прежде всего о цельнозерновом хлебе.

ВОСПОЛЬЗУЙТЕСЬ!

# У белорусов есть возможность подарить близкому человеку отдых на острове

*И это не шутка. Более того, чтобы провести время на свежем воздухе в живописном месте посреди озера, не нужно быть миллионером, такой отдых благодаря* ***ООО «ЛОДЭ»*** *доступен и самым обычным людям.*





Не за горами новогодние и рождественские праздники, и если вы еще не решили, как разнообразить времяпрепровождение в эти дни или какой подарок сделать родным, «Народная Воля» вместе с начальником отдела туризма ООО «ЛОДЭ» **Натальей Макей** подготовили для вас несколько подсказок.

– Более 15 лет назад руководство нашего центра решило открыть на Ксендзовом острове Лепельского озера пансионат «ЛОДЭ», – рассказывает Наталья Анатольевна. – Это место мы выбирали очень долго, я даже сказала бы, трепетно – хотелось организовать место отдыха в красивейшем уголке Беларуси, чтобы, приезжая сюда, люди понимали, насколько уникален наш край, какая в Беларуси красивая природа!

Лепельское озеро – одно из самых больших и чистых в Беларуси, уровень прозрачности воды позволяет видеть дно на глубине до 4 метров. На острове много хвойных деревьев, птиц. Это экологически чистый регион страны, расположенный рядом с Березинским заповедником. Это такое прекрасное место отдыха для приверженцев красивой природы, для тех, кто любит уединиться и спокойно, но нескучно провести время в кругу семьи или с друзьями.

**– То есть весь остров – это территория вашего пансионата?**

– Именно! Мы сделали насыпную дорогу, и сюда можно приехать на машине. Для отдыхающих открыта бесплатная охраняемая парковка.

С каждым годом у гостей пансионата появляется все больше и больше развлечений. Организовали рыбалку, в том числе зимнюю. В Лепельском озере водятся лещ, плотва, окунь – рыбаки всегда возвращаются с уловом. Внутри острова есть маленькое озеро, мы его зарыбляем: там живут караси, и это уже рыбалка-забава для детей. Есть у нас и свой мини-зоопарк с ланями, лошадьми, собаками-маламутами, павлинами, цесарками. По острову бегают кролики! С ними можно играть, фотографироваться.

Естественно, что раз есть лошади, значит, можно на них и покататься. Можно с инструктором, можно самостоятельно. Зимой организовываем катания на санях.

**– Семейный отдых подразумевает и отдых с детьми. Их есть чем занять на острове?**

– Забав для детей тоже предостаточно. Зимой заливаем горки, каток. Можно покататься на лыжах. Снаряжение с собой везти не обязательно, в пансионате работает пункт проката. Есть детская и взрослая анимация. Можно организовать пейнтбол, лазертаг. Зимой устраиваем соревнования по хоккею между коттеджами. Летом можно покататься на велосипеде, поиграть в волейбол… Баня доступна круглый год.





**– Эксперты в области туризма критикуют нашу страну за недостаточное количество мест общепита. Мол, много чего можно посмотреть в Беларуси, но, отъехав от столицы на пару километров, туристы рискуют остаться голодными. На острове «ЛОДЭ» такой проблемы нет?**

– Естественно, приехав на остров, человек должен быть уверенным в том, что его тут вкусно покормят. Поэтому питание входит в стоимость путевки. Это завтрак, обед и ужин, есть детское меню и меню для веганов. Это всегда очень вкусно приготовленные блюда!

В пансионате работает кафе, у отдыхающих есть возможность самим пожарить шашлык: во дворе каждого коттеджа установлен мангал, барбекюшница. В каждом номере есть набор посуды и электрочайник. И если гости решили устроить собственный пикник, то они могут отказаться от ужина и заказать путевку только с завтраком и обедом.

**– В пансионате можно купить отдых на сутки? Или, как в санатории, надо выкупать путевку, например, на неделю или 12 дней?**

– Все очень по-разному, как пожелает турист. График у нас плавающий, бронировать место можно на любое количество дней и на любые даты. Можно приехать на выходные, на день-два, можно отдыхать неделю. У нас есть постоянные клиенты, которые отдыхают в пансионате от нескольких недель до месяца и больше. Что еще удобно: можно привозить с собой домашних питомцев. Единственное ограничение – это запрет привозить собак агрессивных пород и собак, высота в холке которых больше 35 сантиметров.

На всей территории пансионата работает вай-фай.

**– Скоро рождественские и новогодние праздники. Тем, кто решит отмечать их в пансионате «ЛОДЭ», уже надо побеспокоиться о путевке?**

– Если честно, то уже поздно: это что касается самой новогодней ночи. Мы несколько последних лет даже не даем никакой рекламы. Гости, которые встречали Новый год на нашем острове, бронируют эти даты и на следующий год. Мы предлагаем новогоднюю программу – шоу с Дедом Морозом и Снегурочкой, праздничное меню, развлечения на улице. И, конечно, что еще подкупает, – остров украшен ярко, красочно, вокруг хвойный аромат, настоящая новогодняя сказка!

Я советовала бы поторопиться с решением и тем, кто думает отдохнуть на природе и в комфортных условиях на Рождество, во время школьных новогодних каникул. Путевки на эти даты тоже быстро раскупаются. Последние годы часто в эти дни на новогодние корпоративы приезжают компании и фирмы из Минска, заезды начинаются с 15 декабря и продолжаются до середины января.

**– Едут за 160 километров целыми фирмами? Это же еще дополнительные затраты на проезд?**

– И выходит не дороже, чем устраивать праздник в ресторане. Здесь же столько удовольствий – природа, лес, сказка! Баня на дровах, прорубь. Проживание в комфортном деревянном доме, развлечения. По желанию клиентов можем составить индивидуальную командообразующую программу с праздничным ужином, на котором подаем брендированные пирожные, торты.



**– И сколько стоит проживание в пансионате в обычные дни, непраздничные?**

– Номер на сутки для семьи из четырех человек категории полулюкс – это двухкомнатный отдельный коттедж со всеми удобствами (одна комната – спальня с двуспальной кроватью, вторая – гостиная с мягкой мебелью, раскладывающимся диваном, телевизором, набором посуды, холодильником и электрочайником) – стоит 105 рублей. Дополнительно оплачивается трехразовое питание. Для взрослого человека это 25 рублей, для ребенка с учетом возраста – 19. В итоге отдых в течение суток в отдельном коттедже с трехразовым питанием для семьи из четырех человек обойдется в 193 рубля.

У нас есть подарочные сертификаты на отдых в пансионате. Уверена, что такой подарок, как отдых на нашем живописном острове, который прекрасен в любое время года, запомнится навсегда!

**Мария ЭЙСМОНТ.**











З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ

# Віталь ГУРКОЎ: «Самае складанае ў студыі – дзве гадзіны не дрыгаць нагамі…»

*Шматразовы чэмпіён свету па кікбоксінгу і тайскім боксе, спявак рок-гурта Brutto распавёў «Народнай Волі» пра тое, як яму працуецца на дзяржаўным тэлебачанні.*




Не так даўно Віталь стаў адным з вядучых перадачы «Тыдзень спорту» на тэлеканале СТБ, і ў эфір ужо выйшла некалькі перадач з яго ўдзелам…

– Даволі цікава працаваць, – кажа наш суразмоўца. – Тут і новая справа, і новая ступень асабістага развіцця, і добрая каманда сабралася.

**– Для вас складана было змяніць статус спартсмена на ролю тэлевядучага?**

– Не было нічога такога, што немагчыма пераадолець. Безумоўна, толькі практыка будзе шліфаваць маё тэлевізійнае майстэрства, напэўна, патрэбны час, каб адаптавацца, але і зараз нешта ўжо атрымліваецца.

Таму буду вучыцца, літары ўзгадваць. (*Смяецца.*) Я ў тым сэнсе, што чытаць не вельмі люблю, а перад запісам трэба прачытаць напісаны тэкст. Падчас першай перадачы нейкая няўпэўненасць адчувалася, але ўжо наступным разам было лягчэй.

**– Некаторыя палохаюцца тэлекамеры і перад ёй забываюць усё, што хацелі сказаць. У вас такой праблемы няма?**

– Камера мяне не бянтэжыць, але ў мяне іншая праблема. Паколькі па родзе сваёй асноўнай справы я прызвычаіўся скакаць на рынгу, то спакойна адсядзець дзве гадзіны ў студыі і пры гэтым не дрыгаць нагамі ды не рабіць іншыя целарухі для мяне сапраўдныя пакуты. Пакуль ідзе запіс, прабачце, аж задняе месца балець пачынае. Не люблю я знаходзіцца ў статычным стане.

Але многія кажуць, што ў мяне ўсё нармальна атрымліваецца. Хаця адкрыю вам сакрэт: да 5-га класа я не вымаўляў літару «р». Спадзяюся, зараз мой лагапед глядзіць «Тыдзень спорту» і пацірае рукі.

**– Радуецца за вас…**

– Так, бо мяне наогул было складана прымусіць займацца з гэтым лагапедам. Я хаваўся пад стол і катэгарычна адмаўляўся выконваць любыя практыкаванні.

**– Як паспяваеце ўсё рабіць? Трэніроўкі, спаборніцтвы, музычныя захапленні, зараз – праца на тэлебачанні…**

– Насамрэч новая праца не займае шмат часу. Выдаткаваць 2–3 гадзіны на тыдзень не так і складана. Калі б было больш, то, магчыма, я і адмовіўся б ад прапановы працаваць на тэлебачанні, бо ў мяне і насамрэч ёсць яшчэ спартыўны клуб, трэба трэніравацца, бо з вялікім спортам пакуль выпрашыў не развітвацца.

**– Грошы сыгралі ролю ў тым, што вы вырашылі працаваць на СТБ?**

– Грошы тут абсалютна ні пры чым, мне проста хацелася паспрабаваць сябе ў новай справе. Я лічу, што гэта наогул мая невялікая перамога. Калі я выходзіў на рынг з бел-чырвона-белым сцягам і з «Пагоняй», маю фізіяномію не вельмі хацелі паказваць па дзяржаўным тэлебачанні. А зараз я працую вядучым на гэтым самым тэлебачанні і рагачу з усіх тых, хто мяне забараняў.

**– Кантракт у вас разлічаны на які тэрмін?**

– Пакуль на паўгода, а далей будзе бачна.

**Алесь СІВЫ.**

ФУТБОЛ

## Нечаканае паражэнне БАТЭ

*Прайшлі матчы 27-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе.*



Вось іх вынікі: «Мінск» – «Слуцк» – 1:0, «Гарадзея» – «Нёман» (Гродна) – 1:0, «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) – «Дынама» (Мінск) – 4:0, «Дняпро» – «Віцебск» – 2:0, «Дынама» (Брэст) – «Шахцёр» (Салігорск) – 1:1, БАТЭ (Барысаў) – «Ісклач» (Мінскі раён) – 2:4.

### Турнірнае становішча

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічыі | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Дынама (Бр) | 27 | 21 | 5 | 1 | 65–20 | 68 |
| БАТЭ | 27 | 19 | 4 | 4 | 54–19 | 61 |
| Шахцёр | 27 | 18 | 5 | 4 | 53–19 | 59 |
| Дынама (Мн) | 27 | 14 | 5 | 8 | 39–33 | 47 |
| Ісклач | 27 | 13 | 6 | 8 | 40–32 | 45 |
| Тарпеда-БелАЗ | 27 | 13 | 6 | 8 | 38–30 | 45 |
| Гарадзея | 27 | 12 | 7 | 8 | 29–25 | 43 |
| Мінск | 27 | 8 | 8 | 11 | 34–42 | 32 |
| Нёман | 27 | 9 | 5 | 13 | 23–34 | 32 |
| Віцебск | 27 | 8 | 7 | 12 | 23–34 | 31 |
| Славія | 26 | 7 | 7 | 12 | 27–33 | 28 |
| Дняпро | 27 | 7 | 6 | 14 | 27–33 | 27 |
| Слуцк | 27 | 7 | 6 | 14 | 24–45 | 27 |
| Энергетык-БДУ | 27 | 6 | 8 | 13 | 44–61 | 26 |
| Гомель | 26 | 4 | 8 | 14 | 35–45 | 20 |
| Тарпеда | 27 | 1 | 3 | 23 | 4–54 | 6 |

Фота: dynamo-brest.by

**Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.**

Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік, выдавец і галоўны рэдактар
Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 04.11.2019 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 22 006 экз. Заказ № 3847.

